*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 28 (4486)

7 красавіка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля



*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
*Тэл. (8 017) 328 68 71*

## Сёння ў Беларусь прыбывае місія Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якая зробіць адпаведныя высновы адносна таго, на якім узроўні ў нас вядзецца барацьба з каранавіруснай эпідэміяй.

*На ўчарашнюю раніцу ў Беларусі было зарэгістравана 700 выпадкаў каранавіруса, 13 смерцяў.*

*Такую інфармацыю паведаміла Міністэрства аховы здароўя ў сваім тэлеграм-канале.*

На стацыянарным лячэнні знаходзілася 634 чалавекі, паправіліся – 53, зарэгістравана 13 выпадкаў смерці.

Напярэдадні Міністэрства аховы здароўя давала лічбу 562, яшчэ на дзень раней – 440, а перад гэтым – 351. Такім чынам, рост склаў каля 25%. Гэта прыкладна адпавядае тэмпу распаўсюджвання інфекцыі на гэтым этапе эпідэміі ў іншых краінах.




З НАГОДЫ

## Хто спекулюе на сітуацыі?

*Падчас эпідэміі каранавіруса актывізаваліся тыя, хто любіць запускаць неправераныя чуткі.*

У сацыяльных сетках і на розных тэлеграм-каналах нярэдка распаўсюджваюцца фэйкі, якія жывуць і множацца не горш, чым той жа вірус. Пры гэтым аўтары фэйкаў не асабліва дбаюць пра тое, каб пераправерыць інфармацыю з некалькіх крыніц.

*"Зараз у сацыяльных сетках распаўсюджваецца аўдыёзапіс з жаночым голасам, які расказвае пра сітуацыю ў Віцебску*, – паведаміў старшыня РГА "Перспектыва" **Анатоль Шумчанка**. – *Маўляў, інфармацыя ад знаёмага, які працаваў у рэнтгенкабінеце і гэтак далей.*

*Спадарства, гэта фэйк! Мне гэты запіс яшчэ да публікацыі даслалі некалькі знаёмых і напісалі, што гэта сястра ім перадала. Як можа быць столькі аднолькавых сясцёр, сяброўак і братоў? Думаю, тут усё зразумела.*

*Сябры, давайце фільтраваць і пісаць інфармацыю, якая праверана і ў якой вы дакладна ўпэўнены".*

Тыдзень таму пра сітуацыю ў Віцебску расказваў і тэлеграм-канал NEXTA, за якім стаіць журналіст **Сцяпан Пуціла**. Паведамлялася, што ў Віцебску толькі за тыдзень *"зарэгістравана як мінімум 22 смерці ад "пнеўманіі", а колькасць тых, хто захварэў, перавысіла адзнаку ў 1000 чалавек"*. Маўляў, блізкія памерлых адразу забраць не могуць, і выносіць даводзіцца ноччу.

**– Адкуль інфармацыя пра 22 памерлых у Віцебскай вобласці і наколькі яна дакладная?** – запытаўся я ў Сцяпана Пуцілы, які жыве ў Варшаве, а дае інфармацыю па Беларусі.

– Ужо іншыя лічбы, але афіцыйнага пацвярджэння і насамрэч няма.

**– Дык гэтая ж інфармацыя можа быць фэйкам. Вы яе правяраеце?**

– Так.

**– А чаму тады не называеце, ад каго канкрэтна прыйшла інфармацыя? Ці выслухоўваеце і афіцыйны бок?**

– Не называем, бо ў нашай працы галоўнае – бяспека і ананімнасць крыніц. Афіцыйны бок, да слова, таксама выслухоўваем, але даверу да яго няма.

Што датычыцца паведамлення пра сітуацыю ў Віцебску, то ў нашым распараджэнні маюцца дакументы, якія пацвярджаюць як мінімум некалькі смерцяў ад "пнеўманіі". У мэтах забеспячэння ананімнасці крыніц публікавацца яны не будуць.

Скажыце, спадар Пуціла, чаму наведвальнікі сайта павінны верыць нейкаму ананіму? І што значыць "у нашым распараджэнні маюцца дакументы, якія пацвярджаюць як мінімум некалькі смерцяў ад пнеўманіі"? Некалькі – гэта ж не 22?

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## No pasaran!

Самое важное событие последних двух недель для Беларуси, разумеется, связано с коронавирусом. Нет, я сейчас имею в виду вовсе не рост числа заболевших, признаваемый даже нашим Министерством здравоохранения. Я о другом – о солидарности людей.

Сначала в Министерство здравоохранения посыпались просьбы указать номер счета, куда можно перечислить деньги, чтобы поддержать медиков. И хотя Минздрав объяснял, что денег хватает, в конце концов счет был открыт. В короткое время было перечислено свыше миллиона евро. И заседания комиссии, распределявшей эти средства, транслировались в прямом эфире через интернет. Оказывается, гласность при распределении средств никому не мешает. Напротив, она повышает уровень доверия граждан к своему государству – хотя бы в данном вопросе.

В Минске далеко не самое дешевое заведение общественного питания – ресторан Grillman – ушел на волонтерство. Начали готовить бесплатные обеды для сотрудников минской инфекционной больницы.

В Витебске аптечные сети ADEL и «Добрыя лекі» за свой счет готовят обеды для находящихся на дежурстве врачей. На каждом боксе с обедом – слова благодарности в адрес медицинских работников.

В Могилеве кафе «Мясо & лаваш», не надеясь на собственные ресурсы, объявило краудфандинг на набирающей популярность интернет-площадке molamola.

Список можно продолжать. Возникают многочисленные инициативы. Например, инициатива BY_help уже собрала деньги на 20 тысяч респираторов, направила их в больницы и продолжает закупку. Причем что важно: волонтеры действуют не только в больших, областных городах, но доходят и до малых районных центров. Да, не всюду. Да, «атомизация» преодолевается не сразу. Но вот прочел на странице гражданского активиста Антона Мотолько: сотрудники «Тойота Центр Минск Восток» выделили машину и оплатили бензин, чтобы помощь можно было отвезти в несколько городов на севере Беларуси. Значит, понимание есть.

Идет война с эпидемией. Врачи оказались на передовой. А мы все – в роли тех самых тружеников тыла, которые работают не ради наград, а для того, чтобы не пропустить врага. Среди волонтеров этой войны уже появились свои герои: Андрей Стрижак, Юлия Дорошкевич, Роман Стрига, Андрей Ткачев, Никита Краснов и многие, многие другие… Читаешь о том, что они делают, сколько респираторов, масок, литров дезинфицирующих веществ собрано и доставлено, – и понимаешь: no pasaran! Не пройдет враг, даже невидимый. Самоизоляция сопровождается невиданной уже много лет добровольной мобилизацией.

И поразительно: на фоне этих сводок с передовой многие из тех, кто говорил о себе как о представителях гражданского общества, как-то сдулись. О них не хочется ни читать, ни писать.

Не берусь предсказывать, как изменится наше общество после победы над пандемией. Но в том, что оно изменится к лучшему, я уверен.

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## «Народная Воля» хоча працягнуць руку тым, хто за кратамі...

Сумная статыстыка: дзясяткі тысяч нашых грамадзян гадамі пакутуюць за кратамі. Вядома ж, усе яны мараць аб адным: хутчэй бы выйсці на волю! Гэтага жадае ім і газета «Народная Воля». І калі кожны яе нумар будзе трапляць у іх рукі – набліжэнне свабоды стане рэальнасцю. Разумнае друкаванае слова здольна ўзняць дух зняволеных людзей, прыдаць ім веру ў лепшую будучыню.

Была б у рэдакцыі магчымасць афарміць бясплатную падпіску на «Народную Волю» кожнаму, хто адбывае пакаранне ў турме, калоніі ці ў месцах вызначанага пасялення, – абавязкова зрабілі б!

На жаль, цяжкае фінансавае становішча не спрыяе гэтаму. Таму мы звяртаемся да бацькоў, родзічаў, сяброў, былых саслужыўцаў тых, хто па той ці іншай прычыне апынуўся ў зняволенні: падпішыце іх на газету «Народная Воля»!

Кошт месячнага камплекту – усяго 8 рублёў 50 капеек. Адшкадуйце такую невялічкую суму – і, паверце, ваша дабрачыннасць адгукнецца шчырай удзячнасцю тых, хто з нецярпеннем чакае свабоды. «Народная Воля» наблізіць гэты час!

Заўважым: закон дазваляе зняволеным атрымліваць газеты, якія афіцыйна зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі і без абмежаванняў выходзяць у нашай краіне. «Народная Воля» – з ліку такіх. І яе можаце выпісаць чалавеку, які па волі лёсу апынуўся за кратамі, на любы тэрмін – на месяц, два, а неўзабаве і да канца года (вось-вось распачнецца падпіска і на ліпень–снежань). Можаце ўявіць, з якім задавальненнем той, хто за кратамі, будзе чытаць кожны матэрыял з волі пра тое, што адбываецца па-за кратамі, як жывуць многія са знаёмых, землякоў.

Афарміць падпіску для зняволеных можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваным пункце «Белсаюздруку».

Ёсць таксама магчымасць афарміць падпіску на «Народную Волю», не выходзячы з дому. Для гэтага трэба на сайце **belpressa.by запоўніць падпісны бланк і зрабіць аплату праз сістэму Webpay** банкаўскай карткай ці праз сістэму **«Расчет» (АРІП)**. У апошнім выпадку неабходна выбраць пункт **«Система «Расчет» (ЕРИП)» – «СМИ» – «Н» – «Народная Воля» – «Подписка». Для аплаты ўвядзіце нумар рахунка, атрыманага на сайце belpressa.by. Зрабіце плацеж.**

***Працягнем руку тым, хто часова не з намі!***
***Наблізім іх свабоду!***

***Рэдакцыя газеты «Народная Воля».***

СІТУАЦЫЯ

## Каранавірус у Камунары

*Нечаканы госць узрушыў ціхі і спакойны аграгарадок Камунар, што ў Буда-Кашалёўскім раёне на Гомельшчыне. І госць гэты – каранавірус.*

А закруцілася ўсё вось з чаго. Трэцякласнік мясцовай школы, які займаецца спартыўнай акрабатыкай у Гомельскай СДЮШАР-4, аказаўся кантактнай асобай з трэнерамі, у якіх выявілі каранавірус. 1 красавіка хлопчыка з Камунара забралі ў Гомельскую інфекцыйную бальніцу, а 2 красавіка шпіталізавалі ягоных аднакласнікаў ды тых, хто меў з ім кантакт у Камунараўскай школе ў групе падоўжанага дня. Школа перадала спісы ў раённы цэнтр гігіены, і яго супрацоўнікі тэлефанавалі бацькам, каб яны збіралі дзяцей у бальніцу.

– З нашай школы паклалі ў бальніцу на каранцін 25 вучняў трэціх класаў і з чацвёртага, а таксама дзвюх настаўніц і выхавацельніцу. І яшчэ, наколькі я ведаю, пяцёра дарослых. Але інфармацыі пра вынікі абследавання ў нас няма, – кажа дырэктар **Міхаіл Барысевіч**.

Педагогі распавялі, што трымаюць сувязь з калегамі, якія патрапілі ў інфекцыйнае аддзяленне раённай бальніцы. Там яны папрасіліся быць разам са сваімі вучнямі. Перапіска вядзецца і ў сацыяльнай сетцы, дзе настаўнікі і вучні маюць свае групы.

– Стан здароўя, як нам паведамляюць, ва ўсіх някепскі. Высокай тэмпературы ні ў кога няма, – распавядае дырэктар школы. – Піша нам і мама трэцякласніка. У іх шматдзетная сям'я, пазітыўная такая, спартыўная. Паслухайце, што напісала



мама 4 сакавіка – яна з двума дзецьмі і мужам зараз у Буда-Кашалёве: "Самаадчуванне ў сям'і нармальнае – ніякіх сімптомаў няма".

Кіраўнікі школы сцвярджаюць, што камп'ютарная аснашчанасць іхняй установы дазваляе пры неабходнасці арганізаваць нават дыстанцыйнае навучанне, калі канікулы, напрыклад, зацягнуцца.

Дырэктар школы Міхаіл Барысевіч разам са сваёй намесніцай Святланай Малахавай у зеленаватых павязках на твары выходзяць на вуліцу.

– Выбачайце, у школу не запрашаем. Мы тут ужо чацвёрты раз мыем, праціраем, дэзінфікуем. Спачатку ўручную гэта рабілі, пасля пульверызатарамі. У нас два дзясяткі тэхнічных супрацоўнікаў. Робім усё сваімі сіламі. Антысептыкаў і сродкаў для дэзінфекцыі хапае. І ў нас былі, і яшчэ паставілі дадаткова. Можам хоць зараз яшчэ тону дэзраствору прыгатаваць, – тлумачыць Міхаіл Мікалаевіч.

– Не фатаграфуйце толькі стары корпус школы, ён з 1957 года. Рамонт яго мы яшчэ не скончылі, – крыху маркоціцца дырэктар Барысевіч.

Развітваюся з заклапочаным кіраўніком зусім па-сучаснаму: замест поціску рукі дакранаемся адзін да аднаго нагою ў абутку, быццам развучваем "Ойру", старадаўні беларускі танец.

### Звестак пра тэсты няма

Шлях мой ляжыць далей у Буда-Кашалёва, у раённы аддзел адукацыі. Начальніца яго **Алена Парфёненка**, як высветлілася, на бальнічным. Намесніца **Надзея Раманава** на працы ходзіць з павязкай і ў сініх аднаразовых пальчатках.

– Прывыкаем. У мяне ў самой дзіця, і ў школы мы ездзім. Не надта зручна, але трэба засцерагацца, – цалкам рэалістычна разважае Надзея Мікалаеўна.

4 красавіка а 14-й гадзіне ў аддзеле адукацыі яшчэ не ведалі пра распараджэнне Міністэрства адукацыі наконт падаўжэння канікул на тыдзень – па 11 красавіка ўключна. І ўсур'ёз рыхтаваліся да аднаўлення навучальнага працэсу 6 красавіка.

– У раёне 23 школы, – кажа Надзея Раманава. – Нават калі б з-за каранавіруса канікулы і зацягнуліся, то тэхнічная аснашчанасць нашых установаў дазваляе паўсюдна арганізаваць дыстанцыйнае навучанне. У нас і практыка ёсць. Мы ж перыядычна адпраўляем дзяцей класамі на аздараўленне – і нічога, яны не адстаюць ад праграм.

Паводле слоў Раманавай, па стане на 4 красавіка яшчэ і ў аддзел ад медыкаў не паступілі звесткі пра вынікі абследавання школьнікаў з Камунара. Толькі вядома агулам – нейкага форс-мажору няма.

### Радзільны дом стаў інфекцыйным аддзяленнем

Ад вуліцы Горкага, дзе месціцца аддзел адукацыі, да раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі рукой падаць.

Напярэдадні тэлефанаваў галоўнаму дзяржаўнаму санітарнаму ўрачу Буда-Кашалёўскага раёна **Валянціну Камешку** наконт вынікаў тэстаў на каранавірус у школьнікаў з Камунара, але ён ўхіляўся ад адказу.

– Вы думаеце, калі вы журналіст, то вам гэта можна ведаць? – задаваў рытарычнае пытанне раённы дзяржаўны санітарны ўрач, і ў яго тэлефоне чулася песня французскага спевака Джо Дасэна "Калі б не было цябе…".

Камешкі зараз не было ў цэнтры, адсутнічала і ўрач-эпідэміёлаг. "На раёне", – звыкла цвердзяць шараговыя памочнікі.

На выхадзе з цэнтра сустракаю жанчыну з павязкай. Яна ідзе з глыбіні тэрыторыі цэнтральнай раённай бальніцы, на якой знаходзіцца і цэнтр гігіены. Пазнаёміліся. Назвалася Галінай.

– Падыходзіла да інфекцыйнага аддзялення, – тлумачыць спадарыня Галіна. –Там у мяне ўнучка-чацвёртакласніца. Вунь яна ў акне стаіць, махае рукой. Унучка з бацькамі жыве ў Камунары, у доме на адной пляцоўцы з хлопчыкам, у якога знайшлі каранавірус. Чакаю нявестку з сынам, каб перадаць унучцы перадачу. Трывожна вельмі, асабліва за дзяцей.

Пад інфекцыйнае аддзяленне ў раённай бальніцы перапрафілявалі і радзільны дом, дзе зараз лекуецца і ўнучка Галіны. На фасадзе яго захаваўся на сёння двухсэнсоўны надпіс па-расійску: "Здесь рождается счастье!"

Галоўны ўрач ЦРБ **Жанна Еўтухова** публічна паведаміла, што ў аддзяленне пад назіранне медыкаў з Камунара дастаўлены 39 чалавек – дзяцей і дарослых. Усе яны – кантакты першага ўзроўню школьніка, які займаўся ў Гомельскай СДЮШАР-4.

**Антон КУПЧЫН.**

*Камунар – Буда-Кашалёва – Мінск.*

РАЗБОРКИ

# Андрей ЗАЯЦ: «Моя жена принесла публичные извинения Владимиру Делендику…»

*Жена солигорского бизнесмена Андрея Зайца вначале обвинила создателя компании «Дарида» Владимира Делендика в рейдерском захвате бизнеса ее семьи, а через пару дней уже слезно попросила у него прощения. Оба видеоролика можно найти в интернете. «Народная Воля» уточнила у Андрея Зайца (на фото), что происходит и намерен ли он отдать Владимиру Делендику одиннадцать миллионов евро, которые тот вложил в его бизнес.*

### «Почему я должен вести себя, как бандит?»

Андрей Михайлович Заяц – создатель компании «Радуга-свет» и владелец сети магазинов и ресторанов в разных городах Беларуси. Его супруга рассказала, что известный бизнесмен Владимир Делендик угрожает им и требует, чтобы Заяц переписал свой бизнес на его дочь, которая живет в Испании.

*«Два года назад Андрей Заяц попросил меня войти в его бизнес, – рассказал Владимир Викторович «Народной Воле». – Я вложил в его компанию больше 10 миллионов евро и приобрел около 50 процентов акций компании. Тогда у Зайца были проблемы с выплатой кредитов. Но с моей помощью он их погасил, мы достроили некоторые магазины. Затем у нас возникли разногласия, и я написал заявление о выходе из состава акционеров. Сказал Зайцу, чтобы он вернул мне мои деньги. Он не смог. Через некоторое время я снова решил выйти из состава учредителей, потому что был не согласен с некоторыми его действиями, и предложил до 30 июня вернуть мне финансы. Заяц снова оказался неплатежеспособен. Тогда я предложил свой вариант – продать акции. И он согласился на такое решение. 15 процентов акций остались у него, а ко мне перешли 85 процентов. Когда подписывались бумаги о передаче акций, я даже в Солигорск не поехал – все делал мой представитель. Заяц подписал бумаги добровольно и спокойно, никто ему руки не выкручивал. Но он скрыл эту сделку от жены и от коллектива. А потом, когда надо было представить нового директора, он попросил меня: не говорите, что я так поступил, мне стыдно перед всеми...*

*Так что никакого рейдерского захвата бизнеса на самом деле не было. А видео появилось в интернете, видимо, потому, чтобы я не требовал возврата денег. Я поехал проводить собрание в Солигорск, хотел объяснить коллективу, как предприятие будет дальше развиваться, снять острые вопросы, а они устроили там самый настоящий дебош! Меня хотели запугать. А люди, которые пришли, не знали, что происходит... Он довел все до банкротства, а потом стал искать выход. Попросил меня приехать, объяснить ситуацию, а меня там фактически в заложники взяли. Пришлось вызывать милицию...*

*Жена Зайца набросилась на начальника службы безопасности, хотя он крайне корректно себя вел.*

*Я сразу по горячим следам написал заявление в Солигорский отдел милиции, еще хочу, чтобы прокуратура тоже дала свою оценку ситуации по поводу якобы захвата бизнеса.*

*Я уже сегодня думаю, какой дурак был, что туда влез!.. Но, с другой стороны, он так просил помочь...*

*Сейчас они уже осознали, что произошло, и просят у меня прощения...*

*Пару дней назад жена Зайца на одном из солигорских сайтов выложила новое видеообращение: мол, она записала видео на всякий случай, вдруг я начну им угрожать. А почему я должен вести себя, как бандит? Я всегда работаю по закону...»*

### «Записала видео на всякий случай…»

Бизнесмен **Андрей Заяц** до недавнего времени вообще не комментировал ситуацию, он просто не отвечал на звонки журналистов. Но «Народной Воле» удалось до него дозвониться.

– Все всё просто неправильно поняли! – *говорит Андрей Михайлович.* – Было собрание учредителей, на это мероприятие подошли заведующие магазинов, и дальше начался какой-то непонятный балаган. Мы успели все вопросы решить, слава Богу. У нас все нормально, контакты хорошие, отношения дружеские с Владимиром Викторовичем Делендиком. Никаких захватов или перехватов бизнеса не было. Это пресса что-то, как всегда, наворотила...

**– Хотите сказать, что виноватыми остались журналисты? А как вы тогда прокомментируете обращение, которое записала ваша жена? Это журналисты ее заставили записать и выложить в интернет громкое обращение о рейдерском захвате?**

– Нет, не журналисты... Она просто была эмоционально перегружена. Много событий, много информации...Но она не выкладывала это обращение в сеть! Как оно стало общедоступным – я не могу объяснить. Она записала это видео на всякий случай, если что-то случится. Ну, просто надумала себе что-то...

**– А правда, что, когда вы продали свои акции Владимиру Делендику и получили 11 миллионов евро, вы просто не рассказали об этом жене? И она, узнав об этом, оказалась на грани нервного срыва?**

– Да, правда...



**– А почему вы скрыли от жены этот факт? Думали, что бизнес станет успешным и вы сможете выкупить акции обратно?**

– Я не могу объяснить, почему скрыл... Это была слабость с моей стороны...

**– Что теперь с вашим бизнесом? Знаю, что Делендик написал заявление в милицию...**

– Сеть дальше продолжает работать, а мы подписываем договор о сотрудничестве, на днях встречались, пожали друг другу руки. Никаких проблем сейчас нет.

**– А как будет решаться денежный вопрос? Создатель компании «Дарида» говорил, что вы должны вернуть ему 11 миллионов евро, и тогда он выйдет из состава учредителей...**

– Мы передаем ему недвижимость на эту сумму и дальше работаем вместе. Одним словом, все вопросы решились.

А что касается заявления в милиции... Моя жена принесла публичные извинения Владимиру Делендику, она записала новое видео. У нее просто сильнейший нервный срыв...

### «Он талантливый руководитель…»

Как Владимир Делендик отреагировал на второй видеоролик Натальи Заяц с извинениями в адрес его семьи?

– Все равно там факты немного искажены, – комментирует Владимир Викторович. – Да, она попросила прощения, но все равно: что значит «записала ролик на всякий случай»? Она не до конца изложила ситуацию. Я ее прощаю, но пусть она разберется со службой безопасности, у них ведь тоже нужно просить прощения, потому что то, как она себя вела, – это на самом деле хулиганские действия.

*ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА*

*Андрей Заяц, создатель ООО «Торговый дом «Радуга-Свет», родился в деревне Леньки Слуцкого района. Окончил среднюю школу №11 Слуцка. Имеет два высших образования. Специальности – маркетолог, экономист. Начинал предпринимательскую деятельность с торговли в палатке на рынке. Женат.*

Вообще, для меня эта история стала настоящим потрясением...

Ну а все остальное, что Андрей Михайлович сказал, – это искренне, он действительно жену не уведомил, хотя мы с ним мирно все документы готовили, все подписали. И не было бы сегодня этого скандала, если бы он нашел смелость и признался жене, что попал в кризис и что пришлось отдать акции и нашу фирму. Я человек порядочный и отдал ему 15 процентов акций. Заяц правильно сказал: мы подписали с ним контракт, что 1 июня он передаст мне недвижимость, что-то еще, конечно, останется. Сейчас все зависит только от самого Андрея Зайца. Я сдам ему имущество в аренду, и пусть он дальше всем занимается. Он талантливый руководитель, и у меня нет сомнений, что предприятие будет дальше расти и развиваться.

Я всю жизнь в бизнесе, у меня никогда не было долгов. Наоборот получалось так, что мне всегда деньги не отдавали. А сам я никому не был должен. Если бы я вел себя непорядочно в делах, уже не знаю, где находился бы. Я прошел много проверок за все то время, что работаю. И спокойно сплю. Потому что работаю прозрачно.

Кстати, на днях я позвонил в два облисполкома, Минский и Витебский, и столичный горисполком и сказал, что готов оказать помощь больницам, многодетным матерям и тем, кто действительно нуждается в это непростое время. Сейчас надо много пить воды, очищать организм от страшных вирусов, поэтому мы в любом количестве готовы поставить свою продукцию.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ЭКОНОМИКА

# Белорусские власти в кризис рискуют увлечься фантазиями

Создана рабочая группа по разработке экономической программы на пятилетку, но готовить ее не стоит, считают аналитики.

Глобальный экономический кризис, порожденный пандемией коронавируса, продолжается. Как долго он будет длиться и чем закончится, никто не знает. Из-за этого кризиса долгосрочные планы, которые власти наметили в начале года, уже стали практически недостижимы.



### Пятилетние планы устарели за квартал

Правительство на прошлой неделе утвердило состав рабочей группы, которой предстоит разработать программу социально-экономического развития на будущую пятилетку. Впрочем, концепция этой программы была готова еще в начале года и предусматривала два сценария развития экономической ситуации в стране до 2025 года.

Консервативный сценарий предполагал, что ВВП увеличится с 66,8 млрд долларов в 2020 году до 79,4 млрд долларов в 2025 году. Целевой сценарий предусматривал, что ВВП вырастет до 100 млрд долларов (или 234,8 млрд рублей) в 2025 году.

С тех пор, как власти озвучили эти сценарии, прошло всего два месяца, а уже сейчас очевидно, что официальные планы начала года совершенно неактуальны. Ситуация в мире оказалась настолько неблагоприятной, что ни один из прогнозных сценариев начала года такого поворота событий не предусматривал.

Белорусские власти рассчитывали, и до пандемии коронавируса в это можно было верить, что ежегодная инфляция в 2021–2025 годах не превысит 5%, а курс доллара будет расти не более чем на 4–5 копеек в год. В начале 2020-го власти ожидали, что в 2025 году курс доллара составит примерно 2,35 рубля за доллар, а ВВП – почти 235 млрд долларов.

С момента тех прогнозов прошло совсем немного времени, и мы видим, что сейчас официальный курс доллара колеблется в районе 2,6 рубля, то есть уже существенно превысил уровень, который экономические власти ожидали в 2025 (!) году. Поскольку курс доллара уже значительно вырос, то и зарплата в долларовом выражении будет не той, которую прогнозировали в начале года.

Официальные планы предусматривали, что средняя зарплата в 2020 году составит 548 долларов, а в 2025-м вырастет до 759 долларов в эквиваленте – в случае увеличения ВВП до 100 млрд долларов, или 650 долларов – если дела пойдут по консервативному сценарию.

Сейчас, после резкого роста официального курса доллара в марте, вышеназванные цели у многих вызовут улыбку. К слову, средняя зарплата белорусских работников за февраль (выплачена в марте) составила 1119,7 рубля. По нынешнему курсу это около 430 долларов.

Удастся ли в таком случае по итогам года выйти на запланированную ранее цель и обеспечь среднюю зарплату на уровне 548 долларов? Если курс доллара резко не снизится, очевидно, сделать это будет невозможно.

Пятилетние планы начала года устарели еще и по той причине, что за первый квартал нефть российской марки на мировом рынке резко подешевела. Белорусские власти в начале года при планировании пятилетки ожидали, что российский сорт Urals будет стоить 60 долларов за баррель, а на прошлой неделе стоимость российской нефти снизилась до... 10 долларов за баррель.

В общем, официальные белорусские прогнозы начала года, которые закладывались на пятилетку, уже устарели. Стоит ли их переписывать?

### Фантазии сейчас неуместны

Независимые аналитики уверены, что готовить сейчас программу социально-экономического развития на всю пятилетку (2021–2025) не имеет никакого смысла.

*«Сейчас в связи с пандемией коронавируса существует высокая неопределенность, как в будущем будет развиваться мировая экономика, не понятно, что произойдет с экономикой основных торговых партнеров Беларуси. В этой ситуации разрабатывать и утверждать программу на пятилетку нет никакого смысла»,* – считает старший аналитик «Альпари» **Вадим Иосуб**.



Схожего мнения придерживаются и другие белорусские экономисты.

*«Сейчас нужно отложить в сторону работу над пятилетней программой, всякие фантазии о светлом будущем и предметно заняться негативными экономическими процессами, которые развиваются в стране»,* – подчеркнула в комментарии для *БелаПАН* академический директор Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) **Катерина Борнукова**.



По мнению экспертов, в условиях, когда зарубежные страны прогнозируют экономический спад на десятки процентов, белорусским властям нужно сосредоточиться на текущих антикризисных мерах.

*«Нужно думать, как мы будем жить завтра, через неделю, спустя месяц, а не заниматься прожектами на пять лет»,* – убежден Иосуб.

Эксперты предполагают, что нынешний кризис может оказаться серьезнее экономического спада, который наблюдался во всем мире в 2008 году.

*«Если пандемия коронавируса продлится долго, то нынешний кризис будет похож даже не на глобальный спад 2008 года, а на события 1990-х, когда развалились все связи между компаниями и странами»,* – считает Борнукова.

С учетом таких вызовов реакция властей должна быть быстрой и максимально адекватной, считают эксперты.

*«Когда дом может сгореть, проектирование пристройки неактуально. Поэтому сейчас нужно не пятилеткой заниматься, а минимизировать угрозы для финансовой стабильности (в том числе риски суверенного и корпоративных дефолтов), которые существуют»,* – полагает старший научный сотрудник BEROC **Дмитрий Крук**.



При этом в белорусском случае, считает эксперт, решать экономические проблемы за счет монетарного стимулирования, как сделали это некоторые страны, не стоит.

*«Если поддерживать неэффективные предприятия, то финансовые вливания могут усугубить долговую проблему в экономике. Живыми деньгами сейчас нужно поддерживать только население, а эффективные компании поддерживать косвенными мерами (налоговыми, кредитными каникулами), чтобы они смогли пережить этот кризис»,* – резюмировал Крук.

**Дмитрий ЗАЯЦ.**

*(Naviny.by)*

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

### Купалаўскі тэатр шые маскі!

*Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы распачаў сацыяльны праект "Нетэатральная маска" па вырабе ахоўных масак.*

Пашывачны цэх тэатра ўжо вырабіў 500 ахоўных масак для твару, у бліжэйшы час плануецца ажыццявіць выраб яшчэ большай колькасці масак, якія будуць перададзеныя на патрэбы 10-й гарадской клінічнай бальніцы г. Мінска.

"Праект арганізаваны за кошт пазабюджэтных сродкаў Купалаўскага тэатра і пры спонсарскай падтрымцы партнёраў тэатра, – гаворыць у тэатры. – Купалаўскі тэатр будзе ўдзячны юрыдычным асобам, усім аматарам тэатральнага мастацтва і нашым гледачам за фінансавую падтрымку ў набыцці матэрыялаў, неабходных для пашыўкі ахоўных масак. Падтрымаць праект можна праз дабрачынны ўнёсак на рахунак Купалаўскага тэатра".

Праект Купалаўскага тэатра ажыццяўляецца на прыкладзе іншых тэатраў у розных краінах, якія вырашылі падтрымаць медыцынскія ўстановы, - гэта Тэатр імя Наталлі Сац і Дзяржаўны акадэмічны тэатр танца (Казахстан), партнёры Купалаўскага тэатра - Тэатр імя Юліюша Астэрвы (Люблін, Польшча) і Тэатр імя Аляксандра Венгеркі (Беласток, Польшча), Оперны тэатр у Бургасе (Балгарыя) і іншыя.

Купалаўскі тэатр таксама запрашае далучыцца да праекта і іншыя тэатры Беларусі (якія маюць магчымасці), каб разам зрабіць гэтую добрую справу.

**Галіна РУТ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Юрась ГУБАРЭВІЧ: «Калі заходзіш у транспарт і магазін – апрані маску!»

*Лідар руху «За Свабоду» абяцае, што вынікі праймерыз не будуць сфальсіфікаваны, і лічыць, што каранцін – гэта крайняя мера, на якую могуць пайсці беларускія ўлады.*

**– Юрась, сёння вы перамагаеце на праймерыз падчас анлайн-галасавання. Верыце, што лідарства застанецца за вамі?**

– Пакуль мы маем толькі 1000 чалавек, якія прагаласавалі ў інтэрнэце. Але можна казаць, што зараз галасуе актыў палітычных структур, і калі мы пераваліm за 5–10 тысяч тых, хто прагаласаваў, тады, напэўна, можна будзе казаць пра нейкую больш-менш рэальную карціну, што адпавядае настроям людзей, якія не з'яўляюцца палітычнымі актывістамі, але жадаюць перамен у Беларусі.

І галасаванне ў інтэрнэце (хоць у нас ва ўсіх трох прэтэндэнтаў прыблізна роўныя працэнты) – гэта толькі адзін з трох этапаў вызначэння адзінага кандыдата. Да гэтага, нагадаю, былі паездкі па рэгіёнах і галасаванне з непасрэдным удзелам людзей. І па выніках тых паездак у мяне такое грунтоўнае першае месца. Калі браць расклад сярод трох прэтэндэнтаў, якія засталіся ў праймерыз, то можна казаць, што 65–70 працэнтаў тых, хто ўзяў удзел непасрэдна ў сходах, прагаласавалі за мяне. Яшчэ ёсць трэці этап – кангрэс.

**– Хіба ад правядзення кангрэса не адмовіліся з-за каранавіруса?**

– Безумоўна, сёння ва ўсе нашы планы свае карэктывы можа ўнесці каранавірус. Але да кангрэса ёсць яшчэ восем тыдняў – амаль два месяцы! Можа, за гэты час сітуацыя палепшыцца і мы здолеем яго правесці. Пакуль кангрэс не адмянялі. Пры гэтым застаецца актуальным пытанне, ці будуць прызначаны выбары ў Беларусі ўвогуле.

**– Вы мяркуеце, што калі парад на 9 Мая не адмянілі, то выбары адменяць? Смешна.**

– На ўчарашнюю раніцу мы мелі 700 захварэлых на каранавірус і 13 чалавек, якія памерлі. І калі глянуць дынаміку апошніх трох дзён – значна павелічэнне! Што нас чакае праз тыдзень-два – ніхто не можа прадказаць.

**– Вы выступаеце за каранцін?**

– Я лічу, што ў сённяшніх умовах напаўразваленай эканомікі каранцін – гэта крайняя мера. Гэта шок. І гэта вельмі цяжкі выбар паміж поўным руйнаваннем эканомікі, адсутнасцю працы і галоднай будучыняй у перспектыве, з аднаго боку, і здароўем і магчымымі смерцямі людзей – з другога. Улада спадзяецца, што пранясе…

**– Калі б вы сёння былі прэзідэнтам, аб'явілі б каранцін?**

– У першую чаргу зрабіў бы адкрытай усю-усю інфармацыю, даваў бы дакладныя дадзеныя па колькасці захварэлых – дзе якія былі кантакты, дзе заразіўся чалавек. Калі гэтая інфармацыя адкрытая, мы пазбягаем панікі. А паніка – гэта самае страшнае. Бо, калі няма інфармацыі, людзі не ведаюць, чаго чакаць у будучыні, кідаюцца ў крамы, размятаюць тавары, якія зачастую не патрэбны…

**– А яшчэ ёсць страх застацца без грошай…**

– У той сітуацыі, калі мы не ўводзім татальны каранцін, на які, дарэчы, у беларускім бюджэце няма грошай, своечасовае інфармаванне і выкананне правіл бяспекі – гэта першачарговыя неабходныя меры.

Можна адправіць студэнтаў на дыстанцыйнае навучанне, адмовіцца ад мерапрыемстваў ваенных кафедр – нацыянальная абараназдольнасць не ўпадзе, калі студэнты не будуць шыхтавацца некалькі бліжэйшых тыдняў ці месяцаў. Школьнікі старэйшых класаў таксама могуць займацца дыстанцыйна з настаўнікамі. І іх бацькам неабавязкова сыходзіць з працы – дзеці ўжо могуць пабыць дома адны. На дыстанцыйную працу могуць сысці ўсе тыя, хто можа так яе выконваць, – гэта тысячы ўсіх арганізацый, якія не звязаны з вытворчасцю. Так значна зменшыліся б кантакты людзей.

**– Украіна днямі аб'явіла масачны рэжым…**

– Гэта яшчэ адна мера, якую можна ўводзіць у Беларусі. І рух «За Свабоду» раздаваў маскі каля ўваходаў у метрапалітэн, буйныя крамы, ля прахадных прадпрыемстваў. Канешне, сіламі нашай арганізацыі ці проста грамадскіх ініцыятыў мы не зможам забяспечыць патрэбу ўсіх людзей у масках – гэта мусіць быць адпаведнае рашэнне на дзяржаўным узроўні. Але мы інфармавалі людзей, што маска – гэта вельмі важна! І калі заходзіш у транспарт і магазін – апрані маску! Дзяржава магла б патрабаваць, каб на ўваходзе ў метрапалітэн паставілі кантэйнеры з бясплатнымі маскамі, і кожнага пасажыра абавязаць апрануць маску. На мой погляд, гэта важныя рэчы, і яны не разваляць эканоміку і не зробяць дзірку ў бюджэце, але істотна запаволяць распаўсюджванне хваробы.

**– Вяртаючыся да праймерыз: у сацсетках сустракаюцца бязлітасныя каментарыі: «праймерыз проста дыскрэдытуе апазіцыю», «прыпыніце праймерыз», «калі Губарэвіч пераможа, то ён «сальецца» на карысць Лукашэнкі і здыме сваю кандыдатуру»…**

– На жаль, сёння мы ўсё больш сустракаемся ў такой з'явай, як хэйтарства. З-за разгубленасці, страху і нявядання, што рабіць, людзі становяцца больш агрэсіўнымі. Я не звяртаю ўвагі на падобнага кшталту каментары, бо веру ў тое, што раблю, веру, што гэта патрэбна. І мы не зацыкліваемся выключна на пытаннях будучых прэзідэнцкіх выбараў, мы робім зараз шмат для таго, каб праінфармаваць людзей пра тое, што адбываецца.

Мы адмянілі паездкі па рэгіёнах, але адносна таго, каб цалкам спыніць праймерыз…. Сёння мы прапануем анлайн-галасаванне – гэта бяспечная для грамадства форма ва ўмовах каранавіруса. А самаізаляцыя – гэта значыць пакінуць дзеючага прэзідэнта з тымі сапернікамі, якіх ён сам будзе прызначаць, і даць яму магчымасць без перашкод чарговы раз абрацца на пяць гадоў. Я на гэта не згодны.

**– Але тысяча чалавек, якія сёння ўзялі ўдзел у анлайн-галасаванні, – гэта мізэр!**

– Так. Але гэта можа быць абумоўлена складанай працэдурай галасавання, бо трэба прайсці верыфікацыю, каб не было накрутак, – пакінуць нумар дзеючага мабільнага тэлефона, атрымаць пацвярджальны код, пакінуць свае кантактныя дадзеныя і гэтак далей. Але ў выніку мы атрымліваем яскравыя галасы. Я пераканаўны, што калі па выніку мы будзем мець 5–10 тысяч тых, хто прагаласаваў, – гэта будзе добрая каманда актыўных людзей, якія потым падтрымаюць нашу кампанію.

**– Вынікі праймерыз могуць быць сфальсіфікаваны?**

– Самі мы іх не будзем фальсіфікаваць, у нас ёсць унутраны кантроль. Але нельга выключаць спробу знешняга ўплыву, як гэта было падчас паездак па рэгіёнах, калі актыўна галасавалі супрацоўнікі выканкамаў, настаўнікі. Але ж яны таксама грамадзяне Беларусі, ім ніхто не забараняў удзельнічаць у праймерыз, і мы адпачатку сказалі, што галасаванне – адкрытае.

Што тычыцца мяне, то я вельмі шкадую, што мы прыпынілі паездкі па рэгіёнах. Бо, калі б мы аб'ехалі 50 ці больш гарадоў Беларусі і паўсюль мелі магчымасць камунікаваць з прадстаўнікамі ўлады, дзяржактывам, было б цудоўна! Можа, і выбары прасцей прайшлі бы, бо яны падтрымалі б адзінага кандыдата ад апазіцыі.

Марына КОКТЫШ.

ЛЁСЫ ЛЮДСКІЯ

# Незабытыя

Помнік ахвярам масавых камуністычных рэпрэсій у вёсцы Маркавічы Гомельскага раёна стаў адным з першых у Беларусі. Яго спраектаваў і за свае грошы ўсталяваў у 2000-х тагачасны дырэктар мясцовай сярэдняй школы **Мікалай Пашчанка**, унук рэпрэсаванага селяніна Давыда Алесіча з вёскі Букча Лельчыцкага (раней Тураўскага) раёна, што на Гомельшчыне. Цяпер Пашчанка на заслужаным адпачынку. Актывісты грамадскай кампаніі «Забітыя і забытыя» сустрэліся з Мікалаем Сцяпанавічам, каб запісаць яго расповед пра незвычайны помнік і рэпрэсаваных сваякоў.


Мікалай Пашчанка.

## Шлях на Дзікалаўку

Школа, дзе Мікалай Пашчанка выкладаў гісторыю і працяглы час дырэктарстваваў, стаіць акурат пры павароце колішняга тракту ў суседнюю вёску Гадзічава. Гэтым шляхам сталінскія энкавэдысты гвалтам гналі маркавіцкіх сялян, а з Гадзічава – тамтэйшых небарак і пры павароце злучалі ўсіх у адну калону. Далей гаротную калону кіравалі на чыгуначную станцыю Дзікалаўка. Адтуль ужо праз Гомель таварнякамі адпраўлялі ў турэмныя лагеры Расіі альбо наўпрост у Сібір на так званае спецпасяленне – у залежнасці ад таго, якую «біяграфію» напісалі чалавеку чырвоныя камісары з сельсаветчыкамі і следчымі НКУС.

Гэты тракт Пашчанка бачыў кожны дзень, не толькі калі ішоў у школу, але і з акна свайго кабінета. Ён непакоіў, вярэдзіў душу, прымушаў думаць пра драму сям'і дзеда Алесіча.

Раней Мікалай наважваўся паставіць помнік рэпрэсаваным землякам на сваёй малой радзіме, у вёсцы Букча, але не знайшоў там паразумення з мясцовымі кіраўнікамі.

У Маркавічах зрабіць гэта аказалася крыху прасцей. Можа, таму, што да таго часу выйшла кніга «Памяць. Гомельскі раён», у якой пазначана, што ў вёсцы былі «зняволены 44 жыхары, з іх прыгавораны да вышэйшай меры пакарання 37 сялян-аднаасобнікаў і калгаснікаў». У Гадзічаве яшчэ больш пацярпелых ад сталінскіх рэпрэсій: «Зняволены 48 жыхароў, з іх прыгавораны да вышэйшай меры пакарання 40 сялян-аднаасобнікаў і калгаснікаў».

Маючы такую жахлівую статыстыку, Пашчанка завітаў да раённага архітэктара.

*«Зразумейце, у рэпрэсаваных і расстраляных няма магіл. Але ёсць унукі, праўнукі, магчыма, і дзеці яшчэ жывуць. Ім куды прыйсці, дзе пакласці кветкі? Няўжо ахвяры рэпрэсій не маюць права на сваю пару метраў зямлі хоць бы пад помнік?»* – гэтак гісторык азадачыў раённага спецыяліста.

Архітэктар па просьбе дырэктара прыехаў у Маркавічы на «рэкагнасцыроўку», каб узгадніць месца ўстаноўкі помніка. Абследавалі прапанаваны ўзгорачак па правы бок тракта, за нейкую сотню крокаў ад школы. Архітэктар заглянуў яшчэ ў свае мапы-таблы і ўвагнаў невялікі палік у зямлю: «Тут і стаўце!»

Пасля гэтага Пашчанка з калегамі і аднавяскоўцамі і ўзяўся будаваць помнік рэпрэсаваным сялянам дзвюх вёсак.

*– Хацелася,* – расказвае Мікалай Сцяпанавіч, – *каб помнік нагадваў ветразь з крыжыкам наверсе як сімвал вечнасці. І каб абавязкова быў вялікі камень кшталту Салавецкага каменя ў Маскве – аднаго з самых значных помнікаў ахвярам палітычных рэпрэсій у былым СССР. Мая ж маці з дзедам таксама пакутавалі ў той жа Архангельскай вобласці Расіі, дзе знаходзяцца і Салавецкія выспы.*

Невялікі помнік зрабілі хутка. На ім чорная шыльда з надпісам: *«Жыхарам вёсак Маркавічы і Гадзічава – ахвярам сталінскіх рэпрэсій 30-х гадоў XX стагоддзя».* І лічбы – у якой вёсцы колькі людзей рэпрэсавана і расстраляна.

## «НКУС не памыляецца»

У дзеда Мікалая Пашчанкі па кудзелі, Давыда Алесіча з вёскі Букча, была добрая сям'я – тры дачкі да яшчэ старыя бацькі. Гэта вымушала Давыда, удзельніка Першай сусветнай вайны, круціцца паміж сваёй гаспадаркай, лапікам худога поля аднаасобніка і Туравам, які ў 30-я гады мінулага стагоддзя быў цэнтрам аднайменнага раёна. У Тураў Алесіч хадзіў па хлеб ці не кожны тыдзень. Пешшу. Пяцьдзясят чатыры кіламетры ў адзін бок – ну і столькі ж назад. Бывала, дабіраўся Алесіч і да Мазыра. Таксама пехатою, а гэта ўжо каля паўтары сотні кіламетраў.

Быў у гаспадарцы вол, неблагая цяглавая сіла. Але ж не конь. У дарогу на ім ніхто не выпраўляўся. Вол – марудны і цялямпей такі, што свет не бачыў.

Вёска Букча ў тыя міжваенныя гады месцілася ў памежнай зоне. У цэнтры вёскі стаяла казарма для вайсковых памежнікаў. За пяць кіламетраў на захад ад вёскі праходзіла мяжа з Польскай Рэспублікай. Савецкая Расія прайграла вайну з Польшчай і, паводле Рыжскай мірнай дамовы 1921 года, адкупілася беларускай тэрыторыяй. А гэта 108 тысяч квадратных кіламетраў беларускай этнічнай тэрыторыі і 3,2 мільёна насельніцтва.

*– У памежнай зоне савецкія выканаўчыя органы выдавалі вяскоўцам даведкі: імярэк такога года нараджэння з'яўляецца жыхаром той ці іншай вёскі,* – згадвае Мікалай Пашчанка, – *Па тым часе дакумент замяняў пашпарт. Фотаздымка на даведцы не было, бо бракавала адпаведнай тэхнікі і спецыялістаў. Пісулькай мог, у прынцыпе, карыстацца любы чалавек, узрост і пол якога прыкладна адпавядалі пазнакам у той паперчыне.*

І вось аднойчы той даведкі ў Давыда не стала – акурат пасля чарговага пешага паходу ў Мазыр. Скралі тую цыдулку ў абласным цэнтры ці Давыд сам яе дзесьці згубіў, ліха яго ведае! Толькі давялося вяскоўцу звяртацца ў сельсавет па новы дакумент, а тыя ўжо пра «чп» даклалі ў райаддзел НКУС. На Давыда завялі цэлую справу. А тут яшчэ нехта «сігнал» падаў: даведку, маўляў, Алесіч у Мазыры за грошы прадаў, пагатоў яшчэ і за мяжу.

Самае дзіўнае, што даведка тая знайшлася сярод дзедавых рэчаў. Але справа ўжо была заведзена, і, як казалі тады, «НКУС не памыляецца».

«Прышпілілі» Алесічу 58-ы артыкул Крымінальнага кадэкса. А ў тым артыкуле звыш двух дзясяткаў падпунктаў. У «ворагі народа» маглі запісаць практычна любога. Гэта і контррэвалюцыянер, які аслабіў рабоча-сялянскую ўладу, гэта і здраднік, шпіён, які выдаў сакрэты вайсковай магутнасці СССР і меўся ўцячы за мяжу. Гэта недаясенне пра падрыхтоўку контррэвалюцыйнага злачынства, дапамога міжнароднай буржуазіі, падрыў дзяржаўнай прамысловасці, транспарту, гандлю, грашовага абарачэння альбо крэдытнай сістэмы, а таксама тэракты супраць прадстаўнікоў савецкай улады і дзеячаў рэвалюцыйных рабочых і сялянскіх арганізацый. Асобны пункт – прапаганда і агітацыя з заклікам да звяржэння, падрыву ці аслаблення савецкай улады, а таксама распаўсюд, выраб і захаванне літаратуры на такую тэму. А яшчэ – актыўныя дзеянні альбо барацьба на адказных ці сакрэтных пасадах пры царскім рэжыме, контррэвалюцыйны сабатаж, наўмыснае неахайнае выкананне абавязкаў з мэтай аслаблення ўлады ўрада і дзейнасці дзяржаўнага апарата. Паводле прынцыпу: быў бы чалавек, а артыкул знойдзецца.

Улетку букчанцы хадзілі на сенакос у бок мяжы. Касілі на балоце найбольш прыдатныя лугавіны. Гэта ж рабілі па другі бок мяжы і суседзі-беларусы, што апынуліся ў Польшчы.

*– У вёсцы распавядалі,* – прыгадвае Пашчанка, – *што забаранялася нават глядзець у бок «палякаў». А калі, не дай бог, памахаў рукой суседу праз мяжу, то спецпасяленне на поўначы Расіі забяспечана. Была і такая гісторыя. Вяскоўка вярталася з поля адна і спявала сабе песню, складзеную на надзённую тэму: «Працадзень мой, працадзень, як пражыць на цябе дзень?» Увечары чырвоныя памежнікі выклікалі тую кабету ў камендатуру і так надавалі шомпаламі за «крамольную песню», што ў кабеты і голас прапаў.*

## Брызентавы «рай»

Мікалай Пашчанка дакладна не ведае, які пункт абвінавачання з 58-га артыкула энкавэдысты прыпісалі дзеду. Хутчэй за ўсё, нешта пра неахайнае выкананне абавязкаў і аслабленне савецкай улады. У 1937 годзе вывезлі Давыда Алесіча з сям'ёй на пасяленне за 2 тысячы кіламетраў ад Букчы – у гарадок Котлас, што ў Архангельскай вобласці.

Там яшчэ на пачатку 1930-х камісары стварылі перасыльны лагер, які праз колькі гадоў стаў самастойнай установай ГУЛАГа. Горад у горадзе, як апісвалі яго відавочцы. Пад'язныя чыгуначныя шляхі. Пакгаўзы. Вялізны дом-барак. Палаткі. Брызентавы «часовы рай» на 30 тысяч чалавек. Сабакі, вышкі, кулямёты. Доўгі рад прыбіральняў. Калючы дрот. Паласа ўзаранай зямлі. Выбраўся на яе – страляюць без папярэджання.

Котласкі перасыльны пункт апісваў і Аляксандр Салжаніцын у «Архіпелагу ГУЛАГу»: *«…гэта проста быў участак зямлі, раздзелены плотам на клеткі, і клеткі ўсе замкнёныя. Хоць ужо тут густа сялілі мужыкоў, калі ссылалі іх у 1930-м (трэба думаць, што даху над імі не было, толькі цяпер няма каму расказаць), аднак і ў 1938-м далёка не ўсе змяшчаліся ў хісткіх аднапавярховых бараках з гарбылькоў, накрытых… брызентам. Пад асеннім мокрым снегам і ў замаразкі людзі жылі тут проста насупраць неба на зямлі».*

У гэты перасыльны лагер, расказвае Пашчанка, і прывезлі сям'ю дзеда Алесіча. Далей не пагналі. Давыду вызначылі працу на лесапілцы. Перавялі жыць у барак для спецперасяленцаў. Дачок ганялі на лесапавал. З 16-гадовага ўзросту на лесапавале працавала і Варвара, будучая маці Мікалая Пашчанкі.

*– Дзед расказваў,* – прыгадвае Пашчанка, – *што Варвара з такой жа малалетняй сяброўкай уцякла з Котласа. Паехалі на радзіму. Але ў Жыткавічах на чыгуначнай станцыі дзяўчатак перанялі супрацоўнікі НКУС і вярнулі назад у Котлас.*

Дзесяць гадоў адбараніла сям'я Алесіча на поўначы Расіі. У Давыда з жонкай Кацярынай нарадзіліся там яшчэ і два сыны. Падрасла Варвара і выйшла замуж за ўкраінца Сяргея Пашчанку, такога ж спецперасяленца з суседняй Украіны, але з заможнага роду. Шлюб той распаўся. У Варвары засталося толькі прозвішча ад мужа і малая дачка Надзя на руках.

## Маё, тваё, наша

У Букчу Алесічы вярнуліся толькі ў 1948 годзе пасля абвешчання аб дазволу. Давыд, па сутнасці, прыехаў на радзіму інвалідам. На лесапілцы ў Котласе яму цыркулярка адхапіла пальцы на руцэ. З кукстай было ўжо складаней упраўляцца з рознай сялянскай працай.

Муж Варвары так і не прыехаў забраць яе да сябе ва Украіну, як дамаўляліся ў Котласе. Праз колькі гадоў Варвара сышлася з мясцовым удаўцом Сцяпанам, у якога на руках была свая малая дачка. Сцяпану неўзабаве даверылі мясцовую пякарню, якая была на балансе Тонежскага сельпо. А ў букчанскага хлебапёка – тры класы адукацыі. Выручала Варвара, якая скончыла сямігодку. Яна і бухгалтэрыю вяла, і справаздачылася ў сельпо за пякарню.

Так і жылі грамадзянскім шлюбам: яна – Пашчанка, ён – Ярмоліч. Сумеснага сына назвалі Мікалаем, а вось прозвішча сыну Варвара пакінула сваё.

*– Так што сталінскія рэпрэсіі адбіліся нават на маім прозвішчы,* – заўважае Мікалай Сцяпанавіч.

Напрыканцы 1980-х гадоў, калі на дзяржаўным узроўні былі ўзняты пытанні аб неабходнасці адпаведнай ацэнкі рэжыму асабістай улады, адказнасці за рэпрэсіі не толькі Сталіна, але і яго атачэння, пры абласных выканаўчых камітэтах сталі ствараць камісіі для рэабілітацыі ахвяр тых часоў. Мікалай Пашчанка падаў заяву ў камісію Гомельскага аблвыканкама наконт аднаўлення добрага імя дзеда Давыда і яго сям'і. І суседзям, чые сваякі таксама пацярпелі, дапамог напісаць такія ж заявы.

*– Маіх дзеда з бабуляй ўжо не было,* – згадвае Пашчанка. – *Але ж была жывая маці, дзядзькі і цёткі. Прыйшоў адказ, што сям'я дзеда неабгрунтавана падпала пад рэпрэсіі – яна рэабілітавана пастановай Вярхоўнага суда тагачаснага СССР. Выплацілі нават кампенсацыю, памер якой раўняўся кошту дзвюх бутэлек гарэлкі.*

Тады і нарадзілася ў маладога гісторыка Пашчанкі думка пра ўшанаванне памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій, увасобіць якую ўдалося праз гады ў Маркавічах. І хоць на помніку напісана, што ён усталяваны на сродкі калектыву Маркавіцкай школы, гэта не зусім так.

*– У школе мы збіралі грошы на звон для царквы. Гэта было. А помнік – гэта мая асабістая драма, мой боль. Таму я за свае грошы і купляў усё, што патрэбна было для яго. Не мог жа я напісаць, што помнік ўзведзены на сродкі Пашчанкі. Было б няціпла,* – тлумачыць педагог і дадае: – *Цяпер важна не забываць гэтае месца, ладзіць памятныя імпрэзы, прыносіць і сюды вянкі і кветкі. Сталінскія рэпрэсіі – трагічная старонка нашай гісторыі, якую ніяк нельга забываць. Гэта сотні тысяч загубленых жыццяў беларусаў.*

Варта дадаць, што Мікалай Пашчанка, будучы дырэктарам школы, зрабіў яе сапраўднай захавальніцай народных фальклорных святаў і традыцый у Гомельскім раёне. Разам з настаўнікам спеваў і харэографіі Рыгорам Басавым аднавіў у вёсцы прыгожы веснавы абрад «Ваджэнне сулы», ладзілі «Гуканне вясны», «Калядкі», «Беларускія вячоркі». Заснаваў Пашчанка і школьны краязнаўчы музей, дзе сабраны нацыянальныя строі, ручнікі, прадметы побыту вяскоўцаў паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі.


Каля помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
*Фота аўтара.*
*Гомельскі раён.*

ПАМЯЦЬ

# Якім ён быў…

*6 красавіка споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння **Барыса Кіта**, самага старога беларуса свету на дзень ягонай смерці. Каб сустрэць такі паважны юбілей, Кіту не хапіла двух гадоў і двух месяцаў жыцця*


Барыс Кіт на фоне партрэтаў сыноў Віктара і Валодзі. Франкфурт-на-Майне, 2002 год
Лідзія Савік (Courtesy Photo)

Барыс Уладзіміравіч Кіт (06.04.1910–01.02.2018) быў беларускім настаўнікам і асветнікам у Заходняй Беларусі, рэалізаваў сябе як амерыканскі навуковец і прафесар, зрабіў свой унёсак у касмічную праграму ЗША, стаў актыўным сябрам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Ён быў шчырым патрыётам Беларусі і Злучаных Штатаў, марыў пра дэмакратычную і эканамічна расквітнелую Бацькаўшчыну.

У сваім апошнім інтэрв'ю ў лістападзе 2017 года Барыс Кіт як сведка апавядаў пра падзеі стогадовай даўніны, пра тое, як ён памарозіў ногі ў Петраградзе падчас Лютаўскай рэвалюцыі і як галадаў пасля Кастрычніцкай. У ранейшых інтэрв'ю ўдалося распытаць Барыса Кіта пра сакрэты шчаслівага даўгалецця і жыццёвага поспеху.

Пра тое, якім бацькам і дзядулем быў Барыс Кіт, на яго 110-гадовы юбілей Свабодзе расказалі ягоны малодшы сын **Віктар Кіт**, хірург-стаматолаг з Балтымора (ЗША), і ўнук ягонай апошняй жонкі Тамары **Аляксандр Вайнгандль**, камп'ютарны аналітык з нямецкага Вісбадэна (Германія).

## Пабудаваў дом

У звароце да сваіх беларускіх сяброў, якія ў 2010 годзе ў Мінску збіраліся на вечарыну ў гонар ягонага 100-годдзя, Барыс Кіт напісаў, што самая шчаслівая ў асабістым і грамадскім сэнсе частка яго жыцця прайшла ў ЗША. Сюды ён пераехаў у 1948 годзе з жонкай Нінай і старэйшым сынам Уладзімірам (1941–2009), тут у 1950 годзе нарадзіўся ягоны другі сын Віктар, тут ён атрымаў працу і прызнанне, пабудаваў свой дом.

Як распавёў Віктар Кіт, свой дом у іхняй сям'і з'явіўся ў 1959 годзе, яго купілі за 27 тысяч долараў – тады гэта былі вялікія грошы. Будынак быў новы, мураваны, двухпавярховы, са светлымі вокнамі. Дом знаходзіўся ў прадмесці Вашынгтона Кенсінгтан у графстве Мантгомеры.

*«І вось што было цудоўна: гэта была тупіковая вуліца, наш дом быў апошні, далей дарогі не было. Так што гэта было цудоўнае месца гадаваць дзяцей. Гуляць нам было лёгка, не трэба было турбавацца пра рух транспарту, пра тое, што ездзілі сюды-туды на машынах. Гэта было вельмі, вельмі добрае месца для сталення, я думаю. Я, памятаю, неяк спытаўся ў маіх бацькоў: «Чаму вы пераехалі ў гэты раён?» І яны адказалі, што ў гэты час тут былі найлепшыя школы ў сістэме дзяржаўных школ. Так што найперш – адукацыя. Такім чынам яны хацелі пераканацца, што ў нас будзе добрая адукацыя, таму яны і пераехалі ў гэты раён Мантгомеры»*, – згадвае сваё дзяцінства 70-гадовы Віктар Кіт.

Пасля 1972 года, калі Барыс Кіт з'ехаў выкладаць матэматыку амерыканскім вайскоўцам у Нямеччыну, у гэтым доме заставалася ягоная жонка Ніна Корсак-Кіт (1920–2015). Пасля яе смерці дом адрамантавалі і прадалі.

## Дбаў пра адукацыю дзяцей

Барыс Кіт з жонкай Нінай вялікую ўвагу надавалі адукацыі дзяцей, выбіралі найлепшыя школы і ўніверсітэты, аплачвалі іх навуку, а гэта ў Амерыцы каштуе нятанна.

Згадвае Віктар Кіт: *«Гэта абсалютная праўда. Я сапраўды памятаю, што адукацыя была вельмі важнай у нашай сям'і. Вы ведаеце, які быў галоўны прынцып? Адукацыя, адукацыя, адукацыя! Для бацькоў было надзвычай важна, каб мы атрымалі вышэйшую адукацыю»*.

Старэйшы сын Кітоў Уладзімір скончыў Джорджтаўнскі ўніверсітэт, малодшы Віктар – універсітэт імя Джорджа Вашынгтона і Мэрылендскі ўніверсітэт.

*«Яны аплацілі маё навучанне. Гэта была адносна дорага, бо ў мяне не было стыпендыі. Да таго ж я жыў дома, так што мне не даводзілася турбавацца пра інтэрнат і выдаткі на жыццё. Адукацыя была настолькі важнай, што бацькі заўсёды плацілі за маё навучанне»*, – апавядае Віктар.

Гэткае стаўленне да адукацыі Віктар перанёс і ва ўласную сям'ю.

Віктар Кіт сведчыць, што размоўнай мовай у сям'і Кітоў была беларуская. Барыс і Ніна любілі сваіх сыноў і ганарыліся імі.

## Спрыяў захапленням дзяцей

Віктар Кіт згадвае, што ягоны бацька не толькі дбаў пра вучобу, але і падтрымліваў хобі і захапленні сыноў. Уладзімір Кіт апантана займаўся тэнісам і ў студэнцкія часы быў чэмпіёнам універсітэта. Віктар успамінае, што бацька з радасцю наведваў спартыўныя матчы з удзелам сыноў, ахвотна вадзіў іх у кіно.

Сам Віктар у дзяцінстве таксама меў вельмі моцнае захапленне – хадзіў на рыбалку.

*«Я вельмі любіў вудзіць рыбу, і бацька адвозіў мяне на мясцовыя рэкі. Насамрэч ён сам не вудзіў, але проста назіраў за мной і сядзеў побач. Я ж бачыў, як ён нешта думае і глядзіць, як я рыбу лаўлю»*, – згадвае Віктар. Адзін з самых светлых дзіцячых успамінаў Віктара звязаны з ягоным захапленнем рыбацтвам.

*«Каля Нью-Ёрку было месца адпачынку, якое называлася «Бэлэр-Менск». Шмат беларусаў прыязджалі туды, бавілі разам час. І мае бацькі там бывалі, размаўлялі і весяліліся, гулялі ў карты, можа быць, выпівалі… І неяк на зваротнай дарозе з Нью-Ёрка ў Вашынгтон, калі ўжо было даволі позна, раптоўна мы спыніліся каля вялікага возера, і бацька сказаў: «А чаму б табе, Віктар, не пайсці парыбачыць?» Так атрымалася, што ў мяне былі ўсе прыстасаванні з сабой, і я знайшоў некалькі чарвякоў. І потым я пайшоў на прыстань, залез на драўляны пірс, закінуў вуду і злавіў рыбу літаральна праз пару хвілін. І бацькі сказалі: «О, добрая работа». Я адпусціў рыбу, мы пайшлі назад да машыны і паехалі дадому. І гэта тое, што я сапраўды добра памятаю з дзяцінства, – тады я быў захоплены гэтым рыбацтвам, і яны зрабілі дзеля мяне гэты прыпынак. Мне было тады 11 або 12 гадоў»*, – так згадваў Віктар Кіт той выпадак амаль праз 60 гадоў.

## Купіў сыну машыну

Віктар Кіт апавёў, што першай машынай у іх сям'і быў «фальксваген-жук», папулярны ў 1960-я нямецкі аўтамабіль, сціплы, але надзейны. Бацьку штодня на працу трэба было ехаць каля гадзіны, таму без машыны было б цяжка, да таго ж Барысу Уладзіміравічу падабалася ездзіць за рулём, гэтаму ён навучыў і сыноў, даваў ім пасядзець за стырном таго «жука».

*«Ён сапраўды меў задавальненне ад кіравання машынай. Я згадваю іншую гісторыю. Мы неяк ехалі на найбліжэйшы пляж у Оўшан-Сіці. А «фальксваген» меў такі рассоўны дах, што можна было адкінуць яго і ехаць, як у кабрыялетах, без верху. Гэтак бацька і зрабіў. Пры гэтым увесь час свяціла сонца, а ён ужо лысеў тады. І пакуль мы прыехалі ў Оўшан-Сіці, у яго быў жудасны сонечны апёк на цемені, бо мы ехалі каля трох гадзін без даху… Потым ён аддаў гэтую машыну мне»*.

Сям'я Кітоў са старэйшым сынам Уладзімірам і сябрамі. ЗША, 1950 год.
Лідзія Савік (Courtesy Photo)

Віктар Кіт некалькі гадоў паездзіў на старой бацькавай машыне, а пазней Барыс Уладзіміравіч купіў яму, на той час ужо студэнту, новы аўтамабіль, такі самы «фальксваген-жук».

## Любіў апавядаць малым гісторыі

У 1972 годзе Барыс Кіт пераехаў у Нямеччыну адзін – з жонкай Нінай у яго здарыўся разлад, сыны былі ўжо дарослыя. Ён уладкаваўся выкладчыкам матэматыкі ў нямецкую філію Мэрылендскага ўніверсітэта, дзе вучыліся амерыканскія вайскоўцы. Аддзелены акіянам ад сваёй сям'і, Барыс Кіт не браў актыўнага ўдзелу ў выхаванні ўнукаў і праўнукаў, бачыўся з імі рэдка, сведчыць Віктар Кіт.

У Нямеччыне Барыс Кіт знайшоў сабе новую жонку – Тамару Казевіч (1937–2018), з якой заручыўся, але фармальнага шлюбу не ўзяў. З Тамарыным унукам Аляксандрам Барыс Кіт атрымаў досвед клапатлівага і шанаванага дзеда.

Унук Тамары Аляксандр Вайнгандль з малых гадоў запомніў Барыса Кіта як свайго добрага дзядулю.

*«Кожны раз, калі я думаю пра яго, заўсёды ўспамінаю такія яго галоўныя якасці, як добразычлівасць і эрудыцыя.*

*Мой дзед – навуковец, прафесар – быў найадукаванейшым чалавекам. Менавіта адукацыйны працэс быў для яго галоўным на працягу ўсяго жыцця і, больш за тое, рабіў яго шчаслівым.*

*Яшчэ малым я любіў слухаць ягоныя гісторыі. Будучы паводле ўласнай прыроды чалавекам вясёлым і вельмі жывым, ён мог падаць нават самую сумную тэму, тую ж матэматыку, у маляўнічых фарбах. У выніку я здолеў адкрыць для сябе шмат такіх рэчаў, якімі раней ніколі не цікавіўся»*, – згадвае Аляксандр.


Дом Кітоў у прадмесьці Вашынгтона.
Лідзія Савік (Courtesy Photo)

## Гуляў з унукам у футбол

Аляксандр Вайнгандль добра памятае выхадныя дні, якія ён праводзіў з дзедам Барысам у парку ў раёне Борнгайм, што ў Франкфурце-на-Майне, непадалёк ад кватэры бабулі Тамары.

*«Летам мы ладзілі тут розныя прагулянкі або проста адпачывалі на лузе, грэючыся пад сонейкам. З прыемнасцю ўзгадваю нашу гульню ў футбол. Напэўна, мала хто ведае, што Барыс быў не толькі інтэлектуалам, але і моцным спартыўным заўзятарам, неблагім футбалістам-аматарам. Яму вельмі падабалася вучыць мяне гэтай гульні, бо ў дзяцінстве я і сам захапляўся ёю. Мне падабалася, як далёка і высока мой дзед мог падбіваць мяч, а я заўсёды падбадзёрваў яго сваім улюбёным заклікам па-нямецку: «Opi, über die Wolken!» («Дзеду, за хмары!»)»*.

Мячы часта губляліся ў хмызняках, так што іх не заўсёды ўдавалася знайсці. Пазней Аляксандр зразумеў, што гэты ягоны заклік «Дзеду, за хмары!» быў выдатнай аналогіяй дзедавай кар'еры навукоўца, які ўнёс уклад у распрацоўку ракетнага паліва для касмічных палётаў.

## Любіў сямейныя святы

Тамара Казевіч і Барыс Кіт любілі вандраваць па Нямеччыне і свеце, цёпла сустракалі гасцей з Беларусі. Аляксандр згадвае, што з дзядулем Барысам былі звязаны і незабыўныя сямейныя святы.

*«На сямейных спатканнях Барыс Кіт філасофстваваў з маім бацькам аб матэматыцы і гісторыі за кілішкам гарэлкі. Гэта рабілася таемна ад бабулі. Бутэльку бацька і дзед хавалі ў шафе, выпівалі, калі бабуля на кароткі час знікала на кухні, каб прынесці чарговую страву*, – згадвае Аляксандр і робіць выснову: – *Я магу з упэўненасцю сказаць, што Барыс быў шчаслівым чалавекам, ён рэдка сумаваў, і з ім заўсёды можна было ад душы павесяліцца. Напрыклад, ён любіў лавіць цукеркі, якія кідалі з машын падчас карнавалаў. Каб гэта не зайшло далёка, бабуля нават ушчувала яго: маўляў, ён «павінен пакінуць нешта і для іншых дзяцей».*

*Разам Барыс і Тамара правялі 48 гадоў. Час толькі ўмацоўваў іх каханне, хоць яны так і не пабраліся шлюбам. Яны толькі былі заручоныя. Дарэчы, асабіста я так і не зразумеў, чаму яны не выйшлі за рамкі гэтага свайго статусу. Магчыма, сакрэт іх кахання тлумачыўся тым, што яны не жылі разам пад адным дахам. У кожнага была свая асабістая прастора, і кожны, як кажуць, меў магчымасці для адступлення. Тым не менш Барыс кожны дзень наведваў Тамару і кожны вечар тэлефанаваў ёй, каб пажадаць каханай добрай ночы і даведацца пра самаадчуванне.*

*Нават у старэчым узросце, калі ён быў у доме для старых, ён хваляваўся, каб бабуля вярталася ад яго дадому яшчэ пры дзённым святле і не хадзіла па вуліцы ў цемры»*.

Аляксандр Вайнгандль прызнаўся ў інтэрв'ю, што шчыра захапляўся адносінамі дзядулі і бабулі: *«Я быў бы шчаслівы, калі б аднойчы і сам, азірнуўшыся назад, мог узгадаць падобны блізкасцю і напоўненасцю пачуццямі час з маёй каханай»*.

Унук Аляксандр са сваёй маці Ірынай арганізоўваў у 2018 годзе пахаванне і дзядулі, і бабулі. Барыс Кіт памёр 1 лютага 2018 года, ягоная спадарожніца жыцця Тамара Казевіч – 22 чэрвеня таго ж года. Яны пахаваны побач на праваслаўных могілках Вісбадэна.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**
*(Радыё Свабода.)*

ОФИЦИАЛЬНО

Сергей КАБАКОВИЧ:

# Будет рассмотрен вопрос о возобновлении производства по уголовным делам…

*Следственный комитет Республики Беларусь ответил на вопрос «Народной Воли», ездили ли белорусские следователи в Швейцарию допрашивать экс-сотрудника СОБРа Юрия Гаравского и отправляли ли запрос о его выдаче в нашей стране.*

Напомним, что Юрий Гаравский в интервью «Дойче Велле» сделал сенсационное признание о соучастии в убийствах Юрия Захаренко, Виктора Гончара и Анатолия Красовского. Через пару дней после его признания было возобновлено предварительное расследование по делу Юрия Захаренко и Анатолия Красовского. Однако через некоторое время расследование приостановили – «Народная Воля» об этом рассказывала в прошлом номере. Следственный комитет не сообщал много подробностей в связи с неустановлением лица, оно и понятно – тайна следствия.



Вот что ответил на вопрос «Народной Воли» о допросе и выдаче Юрия Гаравского начальник отдела информации и связи с общественностью центрального аппарата Следственного комитета **Сергей Кабакович:** *«Следствием предприняты исчерпывающие меры по проверке и оценке различных обстоятельств, изложенных Юрием Гаравским. В настоящий момент предварительное следствие приостановлено.*

*При получении новой информации, в том числе из компетентных органов иностранных государств, будет рассмотрен вопрос о возобновлении производства по уголовным делам»*.

Судя по всему, запросы в Швейцарию наши следователи все же отправили. А теперь ждут ответа. Посмотрим, какое развитие получит история. «Народная Воля» будет следить за этой темой.

**Марина КОКТЫШ.**

ПЫТАННЕ–АДКАЗ

## Пакуль без перасеву…

*"Ці не ўзнікла ў некаторых раёнах неабходнасць перасеву ранніх яравых зерневых культур з-за начных замаразкаў у апошнія пару тыдняў?"*

**Леанід КІРЫЛЬЧЫК, Мінск.**

Мы звярнуліся з гэтым пытаннем да начальніка ўпраўлення раслінаводства Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі **Васіля ЯДЛОЎСКАГА**.

– Пакуль перасеву не было, але такое не выключана, – кажа Васіль Міхайлавіч. – Замаразкі яшчэ ідуць і прагназуюцца, напрыклад, у Лунінецкім, Ганцавіцкім, Бабруйскім раёнах…

Але гэта на агульную сітуацыю ніяк не паўплывае, мы штогод нешта перасяваем. Калі прыйдуць устойлівыя тэмпературы, тады і будзе бачна, што рабіць далей з пасевамі.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## Амаль лета!

*Сёння і заўтра каля 20 градусаў, але напрыканцы тыдня сіноптыкі абяцаюць на поўначы Беларусі нават магчымы снег.*

8 красавіка, у сераду, днём +13…+19°С, па паўднёвым захадзе +20…+22°С.

9 красавіка, у чацвер, у дзённыя гадзіны парывісты вецер. Уначы 0…+6°С, месцамі да -2°С, днём +17…+23°С, па поўначы +14…+16°С.

У пятніцу днём +7…+13°С, па паўднёвым захадзе на пару градусаў цяплей.

Паводле папярэдніх прагнозаў, у выхадныя чакаецца халаднаватае надвор'е. У нядзелю па поўначы Беларусі можа выпасці невялікі снег. Што ж, такое бывае…

СОЛИДАРНОСТЬ

## Европейский Союз поддержит Беларусь

Европейская комиссия приняла решение поддержать страны Восточного партнерства и выделила 140 миллионов евро на самые необходимые нужды **Армении, Азербайджана, Беларуси, Грузии, Молдовы и Украины.**

Кроме того, Европейская комиссия перенаправит средства в объеме до 700 миллионов евро, чтобы помочь смягчить социально-экономические последствия коронавирусного кризиса по всему региону.

ЧУЖЫ ВОПЫТ

## Японія падтрымае сем'і грашамі – па 2800 долараў

Палітыкі кіруючай Ліберальна-дэмакратычнай партыі Японіі ўзгаднілі новыя меры стымулявання эканомікі ў краіне. Кожная хатняя гаспадарка, якая пацярпела ў пэўнай ступені ад пандэміі каранавіруса, атрымае 300 тысяч ен (2800 долараў).

Выплата гэтай дапамогі – частка пакета эканамічных стымулаў, які будзе прадстаўлены ўрадам на наступным тыдні. Плануецца, што гэты пакет забяспечыць фінансавыя ўліванні на агульную суму 276 мільярдаў долараў.

МОЗГОВАЯ АТАКА

## Что скажут технари?

Технических активистов из шести восточных стран-соседей ЕС (Армении, Азербайджана, Беларуси, Грузии, Молдовы и Украины) приглашают принять участие в международном хакатоне «Глобальный взлом», чтобы найти решение проблем, вызванных коронавирусным кризисом.

Это поддерживаемое Евросоюзом мероприятие организовано Эстонией и будет проходить в режиме онлайн с 9 по 12 апреля.

Целью мероприятия является объединение великих умов, наставников мирового класса и талантливых команд для создания решений для лучшего будущего.

ЧУЛІ?

## Першай еўрапейскай краіне ўдалося пераламаць ход эпідэміі каранавіруса

*Пазітыўная статыстыка прыходзіць з Аўстрыі. Гэтая альпійская краіна апынулася на пярэднім фронце каранавіруса, бо суседнічае з італьянскім эпіцэнтрам. Яна была таксама першай сярод тых, хто ўвёў рашучыя каранцінныя абмежаванні.*

Прыклад Аўстрыі натхняльны, бо паказвае, што каранавірус можна стрымаць і без абмежавання правоў грамадзян, як было ў Кітаі.

4 красавіка ў краіне ўпершыню паправілася больш людзей (485), чым было заражана (257). Гэта не разавы факт. Колькасць новых заражэнняў падае з 26 сакавіка.

Колькасць выяўленых хворых пачала падаць праз 11 дзён пасля ўвядзення каранцінных абмежаванняў.

Аўстрыя першай у Еўрасаюзе, яшчэ 10 сакавіка, закрыла мяжу, але толькі адну – з Італіяй, дзе было найбольш заражэнняў. Іншыя межы засталіся адкрытыя. Таксама адной з першых, з 15 сакавіка, краіна перавяла грамадскае і эканамічнае жыццё на «аварыйны рэжым», каб прадухіліць распаўсюджванне новага каранавіруса.

Заняткі ва ўсіх навучальных установах былі пераведзены на дыстанцыйны рэжым. Пры гэтым некаторыя дзіцячыя садкі і школы адкрыты, каб даглядаць дзяцей, бацькі якіх працуюць.

Былі спынены спартыўныя мерапрыемствы, зачынены рэстараны, бары і кафэ, акрамя службы дастаўкі ежы. Храмы адмянілі царкоўныя службы, хросты і шлюбы. Зачыніліся музеі і тэатры.

«*Універсітэты былі першымі, каго пачалі закрываць. Потым школы і дзіцячыя садкі,* – расказвае беларуска **Кацярына Хольцапфель-Варажун**, якая жыве ў Вене. – *Мы займаемся з сынам па тых падручніках, якія перадала настаўніца. У нас ёсць план на кожны тыдзень. Настаўніца таксама запісвае на відэа чытанне дзецям кніг, паказвае, як можна рабіць арыгамі і маляваць кветкі. Даступна для прагляду на ютюбе. Абсалютна спакойна ўсе перайшлі на каранцін, калі ўрад растлумачыў, якім чынам будуць кампенсаваць страты тых, хто не зможа працягваць працаваць*».

«*На вуліцах, у крамах, пякарнях, аптэках людзі вытрымліваюць дыстанцыю. У аптэкі можна заходзіць па 1–2 чалавекі,* – працягвае распавядаць Кацярына. – *Мой муж працуе дыстанцыйна, з дома. За тры тыдні каранціну я асабіста выходзіла два разы ў магазін і чатыры разы падыхаць свежым паветрам. Звычайна гэта кароткія прагулкі. Паліцыя кантралюе, каб не збіраліся вялікімі групамі. Дазволена выходзіць разам на двор толькі з тымі, з кім жывеш у адной кватэры ці ў адным доме*».

У Аўстрыі закрылі крамы адзення, мэблі, бытавой тэхнікі, дзіцячых тавараў, ювелірных вырабаў, цырульні, спартыўныя залы. Выключэнне зроблена для аб'ектаў жыццезабеспячэння: супермаркетаў, аптэк, заправак, пошты, банкаў, пральняў, цэнтраў мабільнай сувязі. Абмежаванні не закранулі таксама работу грамадскага транспарту, заводаў і органаў дзяржаўнага кіравання.

Людзям забаронена збірацца групамі больш за 5 чалавек.

Кіраўнік краіны канцлер Себасцьян Курц у заяве для аўстрыйскага агенцтва АПА заклікаў людзей максімальна заставацца дома.

Каб дабіць каранавірус, з 1 красавіка ўлады Аўстрыі зрабілі нашэнне маскі ў крамах абавязковым. Канцлер асабіста тлумачыць грамадзянам сэнс і мэты абмежаванняў: *«У нашай культуры гэтага, вядома, няма, але менавіта так краіны Азіі прыйшлі да таго, што ў іх усяго некалькі хворых за дзень»*. Вырашана раздаваць маскі бясплатна на ўваходах у магазіны.

За выкананнем новых абмежаванняў сочыць паліцыя.

Усяго за перыяд эпідэміі ў Аўстрыі заразілася амаль 12 тысяч чалавек, 186 памерлі. Гэта 21 смерць на кожны мільён насельніцтва, нашмат менш, чым у многіх іншых краінах, дзе эпідэмія яшчэ не пайшла на спад.

Міністэрства аховы здароўя Аўстрыі штодзённа публікуе звесткі па хворых і лятальных сыходах па кожным рэгіёне краіны. Лятальнасць ад каранавіруса ў Аўстрыі набліжаецца да 2% ад колькасці выяўленых выпадкаў. На жаль, гэтая лічба з часам вырасце, бо ў рэанімацыях краіны застаецца шмат людзей з цяжкімі пнеўманіямі.

Аўстрыяй кіруе кааліцыя хрысціянскіх дэмакратаў з Народнай партыі і Зялёных. Насельніцтва Аўстрыі складае каля 9 мільёнаў чалавек.

Людзі хутка прывыклі да новых абмежаванняў і ставяцца да іх з разуменнем, кажа Кацярына Хольцапфель-Варажун. «*Усё спакойна. Людзі стараюцца прытрымлівацца правіл. І мыюць рукі*», – кажа яна.

Фота Arno Melicharek, bild.de.



Канцлер Аўстрыі Себасцьян Курц падае прыклад нашэння маскі.

МЕМУАРЫ

Михаил ФАРФЕЛЬ

# Открытый перелом

*(Продолжение. Начало в №№18–27.)*

*«Всевышний, слава Ему, дает мудрость лишь тому, кто мудр».*
***Йоханан, Гемара, Трактат Баба Меция***

Одним из тех, с кем связала меня судьба и с кем также связаны мои воспоминания, является митрополит Минский и Слуцкий Филарет, глава Белорусской православной церкви *(книга М.Фарфеля вышла в 2009 году. – **Прим.ред.**)*. Представляя округ избирателей, где более девяноста процентов всего населения были православные верующие, я активно содействовал строительству церкви в городском поселке Красная Слобода. Это было тяжелейшее с точки зрения экономики время. Средств не было у государства, отсутствовали они и у людей. Поэтому мне ничего не оставалось, кроме как просить эти деньги у начинающих бизнесменов, моих друзей. Большинство из них были евреи. Это было интересное сочетание источников средств – пожертвования простых христиан и вклады евреев-бизнесменов.



Филарет у меня в гостях.

Получив все разрешения от тогда еще коммунистических властей, мы задумали и начали грандиозную стройку, почти как храм Христа Спасителя в Москве. Однако очень быстро жизнь повернула нас лицом к реальности. Нужны были настолько огромные средства, что задача становилась невыполнимой, мы вовремя остановились, и нам удалось построить небольшой, но уютный храм, в котором сосредоточена вся религиозная деятельность многих моих земляков. Могу взять на себя смелость и сказать, что эта церковь в некотором смысле символизирует отношения между нашими двумя народами, белорусами и евреями, живущими уже более полутысячелетия бок о бок.

Были случаи, когда мои земляки-христиане предлагали мне поменять религию. Иногда мне казалось, что они испытывали некий дискомфорт оттого, что я стараюсь построить эту церковь, а может, оттого, что они хорошо знали, кто финансирует стройку. Я им всегда с улыбкой отвечал, что пример Христа показывает: чтобы стать хорошим христианином, сначала нужно быть хорошим евреем. Кроме того, я хочу построить эту церковь в честь тех священников, которые спасали еврейских детей в своих храмах, рискуя не только своей жизнью, но и, как правило, жизнью своих многочисленных близких и членов семьи.

В первом парламенте Республики Беларусь было несколько священнослужителей. Среди них и главный белорусский православный священник митрополит Минский и Слуцкий Филарет. Я пригласил его к себе с целью освятить место, где строилось здание церкви, и заодно присутствовать на торжествах, посвященных началу учебного года. Весь народ был свидетелем этих событий. Не каждый день такого уровня священнослужители приезжают в маленький поселок. Это было сродни приезду Папы Римского в какую-нибудь центральноамериканскую страну.

Однажды владыка (так его называли в общении) пригласил меня пообедать с ним в его резиденции в Минске. Я в это время находился на сессии Верховного Совета. Машина, посланная за мной, подкатила прямо к ступенькам храма власти, и мы отправились к главному религиозному храму Минска, где меня и ожидал сам Филарет. Был пост, и трапеза была очень скромной, но главным для меня являлась возможность спокойно побеседовать с этим умнейшим человеком. Я пребывал накануне отъезда в Израиль. Филарет, конечно же, мне много рассказал об Иерусалиме и о многих других святых местах, которые он уже неоднократно посещал. По сегодняшний день я уверен, что никто лучше него не смог бы передать атмосферу этих мест и ощущение, которое испытывает каждый, кому Бог дал возможность побывать на этой земле.

У Филарета был низкий, спокойный, необычный голосом и очень выразительные черные глаза. Беседа на меня произвела неизгладимое впечатление, каждое его слово проникало глубоко в душу. В ответ я пообещал, что запомню эту трапезу и заранее приглашаю его в Израиль, где у меня будет возможность ответить на его гостеприимство.

И надо сказать, что он дважды доставлял мне удовольствие принимать его на Святой земле. Я встречал высокого гостя в аэропорту. Мы приезжали в хороший ресторан на берегу моря, трапеза проходила вместе с послами России и Украины. Но, несмотря на большой ассортимент яств и напитков и замечательный вид на море, в моей душе осталось воспоминание о том скромном обеде, когда мы были только вдвоем и я наслаждался общением с этим приятнейшим собеседником.

Так случилось, что во второй раз мы возвращались в Беларусь вместе в одном самолете. Сидели рядом, разговаривали. Я спросил моего собеседника, откуда у него такое по-настоящему библейское лицо. Филарет взглянул на меня и, как всегда спокойно, ответил: «Моя мама – еврейка». В это мгновение я вспомнил и строительство церкви, и источники финансирования и понял, что все было очень логично, и пусть никого не волнуют возможные глупые вопросы на эту тему...

*«С приходом мессии все больные станут здоровыми, но глупцы глупцами и останутся».*
**Пословица**

В первый год нашей работы в посольстве мы принимали высокопоставленную делегацию из Республики Беларусь. Эта делегация прибыла для подписания первого межправительственного соглашения по сельскому хозяйству. Ее возглавлял заместитель председателя Совета министров, кроме того, в нее входили руководители аграрного сектора, представляющие Министерство сельского хозяйства, а также представители законодательной ветви в отрасли сельского хозяйства. Кроме них было несколько рядовых председателей колхозов.

В дополнение к переговорам гостям была представлена и насыщенная культурно-познавательная программа. Представителей из Беларуси размещали в самых дорогих гостиницах страны. Номер руководителя стоил восемьсот долларов за ночь, для рядовых членов делегации – в районе двухсот долларов. Все расходы на себя брала принимающая сторона. Не знаю, было ли это заранее оговорено, но в составе этой делегации был человек с определенной суммой наличных денег, которыми предполагалось оплачивать все необходимые расходы. А оплачивать, в принципе, было нечего.

И вот на этом фоне один из членов делегации настойчиво начал просить меня достать справку из отеля о том, что якобы расходы по гостиницам осуществлялись самими проживающими. Я по-человечески понимал это желание «заработать» легкие и немалые деньги, но сделать этого не мог. И не только по причине элементарной нравственности. Я всячески старался объяснить коллеге, что белорусские финансовые органы в Минске, получив подробный отчет, также на паритетных условиях не оплатят гостиницу и израильской делегации в случае ее ответного посещения Минска. А это уже может вызвать массу неприятнейших вопросов. Я настойчиво продолжал объяснять напористому «бизнесмену», что это не только неправильно, но и просто опасно. Но мой гость, по-моему, потеряв уже всякий интерес ко всем переговорам и поездке, упорно склонял меня к «дружескому» поступку. Не выдержав подобного напора, мне пришлось обратиться к одному из моих коллег по парламенту с просьбой успокоить этого бизнесмена от политики. Честно говоря, для меня практически невозможно кого-то «закладывать», но этот тип меня просто достал.

Поездка предусматривала посещение святых христианских мест. Нам были предоставлены лучшие в стране русскоговорящие гиды. Когда мы дошли до мест, где Христос впервые начал проповедовать в синагогах, то этот же мой «друг» принялся утверждать, что Христос и синагоги – это несовместимые понятия. Опытный экскурсовод, реагируя на постоянные реплики этого «знатока» Библии, вынуждена была сообщить ему «новость», что Иисус Христос был еврей и что его даже обрезали на восьмой день после рождения согласно еврейской традиции. Это уже было выше его понимания, и смириться с этим ему было действительно тяжело. Тогда я подошел к «несчастному» и с большим удовольствием сообщил, что даже если такие, как он, доведут всех евреев до отъезда, то все равно евреи останутся почти на ста процентах всех икон в церквях. И что я советую если не Библию, то хотя бы Булгакова почитать перед следующей поездкой в Израиль. С этого момента и до конца поездки мы больше не разговаривали.

Подписание договора проходило очень торжественно в присутствии премьер-министра Ицхака Рабина. Подписи под этим документом поставили руководители нашей делегации, заместитель премьер-министра, а с израильской стороны – Шимон Перес, бывший в то время министром иностранных дел. Обычно руководители, подписав соглашение, кроме обмена текстами документов обмениваются еще и ручками, которыми была поставлена подпись. Как-то так получилось, что Шимон Перес свою ручку подарил мне. И поэтому эту часть воспоминаний я пишу той самой в некотором смысле исторической ручкой.

*«Писать – легчайшее из занятий, вычеркивать – труднейшее».*
**Липкин, Тенуат «Ха-Мусар»**

Посольство уже функционировало достаточно длительный период, но укомплектовано кадрами, как положено, не было. Главной проблемой было отсутствие бухгалтера. Через консульский отдел проходили просто огромные, по нашим понятиям, средства, причем наличными деньгами. Эти суммы консул держал при себе, и они не давали спать ни ему, ни мне.

Вторая проблема, связанная с отсутствием специалиста, заключалась в неимении опыта в финансировании самого посольства. Мы экономили на всем, различные приемы в первое время делали за свой счет. Ни о каких поварах, садовниках, помощниках, что является просто необходимым в каждом подобного рода учреждении, не было и речи. Все это лежало большим грузом на наших женах.

Поскольку мы жили в районе, где большинство жителей были дипломаты, некоторые вещи нам приходилось стараться просто не афишировать. Например, такая простая работа, как прополка цветов возле дома. Наташа делала это с удовольствием, но по вечерам. Она была деревенской девушкой, и этот труд не был ей в новинку и не вызывал никаких проблем.

Однажды ко мне подошла соседка и спросила, как моя жена ухаживает за руками, принимая во внимание, что все гости, как правило, целуют руку жене посла, а она часто видит мою супругу за этим необычным сельскохозяйственным трудом. Я буркнул этой бдительной соседке, что Наташа работает, во-первых, одной рукой, а во-вторых, очень редко...

Наконец нам решили прислать бухгалтера. И как бы в награду за все наши мучения к нам прибыла женщина – очень профессиональный бухгалтер. С первого же дня она сняла с нас все проблемы, очень умело управляя финансами. Не успела бухгалтер приступить к работе, как следом приехал ревизор. Мы так долго финансировали сами себя, что очень волновались. Безусловно, это не было связано с опасением, что возможны грубые нарушения финансовой дисциплины, скорее нас волновала степень нашего непрофессионализма. Да и деньги есть деньги.

Ревизор перевернул все бумажки, беседовал с каждым из нас, правда, делал это очень корректно. Жил он, конечно, с нами и за наш счет. Затем попросил помочь ему полечить зуб, который вдруг разболелся в Израиле. Мы помогли. Затем гость захотел проехаться по стране, кстати, расход топлива контролировался очень строго. И все же все шло, как положено, пока он не ознакомил меня со справкой по результатам проверки. В целом и там было все в порядке, кроме претензии по поводу использования международного телефона. Я объяснил, что мы начали работать с нуля и поэтому обязаны были консультироваться по всем вопросам, особенно по финансовым. Сказал, что мы за свой счет обеспечиваем практически все приемы, единственные из всех посольств живем без медицинской страховки и даже без оплаты обучения детей в школе, нарушая этим самым государственный закон о бесплатном образовании и медицинском обслуживании. Что мы часто содержим дома больных детей, прибывающих из Беларуси. В ответ он заметил, что, будучи честным человеком, он непреклонен по отношению к любым, даже мелким, нарушениям.

Вообще к этим вещам я относился очень болезненно. За время работы директором школы меня проверяли десятки раз. И никто никогда не ставил под сомнение мою финансовую щепетильность и честность. Расценив эти мелкие нарушения как несправедливые и предвзятые, я предложил этому честному проверяющему самому оплатить его пребывание в стране, а также зубы и многие другие вещи из его же командировочных. Справка была переписана.

Были у меня встречи и знакомства, которыми я очень горжусь. Мне всегда хотелось ими поделиться в своих воспоминаниях, но обо всем по порядку. Обучаясь в вузе в очень сложные с точки зрения накатившей в 1967–1972-м волны государственного антисемитизма годы, мы, студенты и не только, каждую годовщину расстрела еврейского гетто в Минске собирались на знаменитой «Яме», что на Юбилейной площади, почти в центре города.

*(Продолжение на 6-й стр.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
7 КРАСАВІКА 2020 г.

АСОБА

## Ігар СУРМАЧЭЎСКІ:

# «Я магу глядзець на ікону цэлы тыдзень, нібы размаўляючы з ёй…»

*Стоячы ў музеі ці ў царкве перад старажытнай іконай, мы часам і не падазраём, у якім выглядзе яна дайшла да нас праз стагоддзі. Многія іконы даводзіцца ратаваць, літаральна вяртаць з нябыту. Нічога не паробіш, няўмольны і жорсткі час не шкадуе нікога і нічога, у тым ліку творы сакральнага мастацтва. Як яны вяртаюцца да жыцця, каб ізноў служыць людзям? Пра гэта нам раскажа мастак-рэстаўратар і калекцыянер **Ігар СУРМАЧЭЎСКІ**.*

**– Ігар, нядаўна вы напісалі на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку», што засцерагаецеся ад каранавіруса, працуючы над аднаўленнем царкоўнага абраза. Атрымліваецца, што вы ратуеце іконы, а іконы ратуюць вас?**

– Так. Я веру, што паміж абразом і вернікам існуе сакральная сувязь. Займаючыся рэстаўрацыяй з 1988 года, я неаднаразова пераконваўся: іконы дапамагаюць. Мяркую, дапамога даецца тым, хто шчыра верыць і моліцца. Якраз цяпер я рэстаўрырую абраз свяціцеля Панцеляймона з полацкага Свята-Еўфрасіннеўскага манастыра. Мне дапамагаюць выдатныя рэстаўратары з Нацыянальнага мастацкага музея Аркадзь Шпунт і Аляксандр Лагуновіч. Хутка справа будзе зроблена, і святыня паедзе «дадому» ў Полацк. Дарэчы, святы Панцеляймон – адзін з самых шанаваных хрысціянскіх святых, да якога звяртаюцца з малітвай аб здароўі.

**– Працаваць над іконай вы можаце ў любым настроі? Ці для гэтага патрэбна нейкая адмысловая падрыхтоўка?**

– Безумоўна, такая праца патрабуе пэўнага стану душы. Можна параўнаць гэты стан з настроем акцёра перад выхадам на сцэну. Я магу глядзець на ікону цэлы тыдзень, нібы размаўляючы з ёй. Неабходна зразумець аўтара, які ствараў абраз стагоддзі таму, і па магчымасці паўтарыць яго тэхніку і задуму. Часам разглядаеш у музеі адрэстаўрыраваны абраз, і хочацца ўсклікнуць: не веру! Нешта не так, штосьці чужароднае адцягвае позірк… Зрабіць усё належным чынам вельмі складана.

**– А калі вы аднавілі першы абраз? З якім пачуццём вы да яго падступаліся?**

– Усё маё дзяцінства, а вырас я ў Вязані і Фаніпалі пад Мінскам, праходзіла ў прысутнасці каталіцкага абраза Маці Божай Вастрабрамскай, які вісеў у нашай хаце. А першы крок да разумення сакральнага мастацтва я зрабіў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, дзе мне пашчасціла быць вучнем Міхася Раманюка. Менавіта ад яго мы, студэнты, даведаліся, што ўяўляе сабой, прыкладам, беларускі ўніяцкі сакральны жывапіс. Пасля заканчэння інстытута я працаваў на мастацкім камбінаце – займаўся дызайнам, вітражамі. А ў той час (канец 1980-х) у Мінску адчынілася першая антыкварная крама. Там я і набыў за 10 савецкіх рублёў невялічкую ікону святога Мікалая, якая патрабавала рэстаўрацыі. Але гэтаму ў інстытуце нас ніхто не вучыў. Давялося займацца самаадукацыяй, вывучаць тэхнікі старых майстроў, розныя іканапісныя школы.

**– Вы, як хірург, «лечыце» абразы, а яны вам сваю цудадзейную сілу ўжо неяк паказалі?**

– Быў такі момант. Справа ў тым, што антыкварны рынак (асабліва ў Маскве) вельмі жорсткі. Аднойчы мяне «кінулі» на вялікую суму… І са здароўем было кепска, я бясконца хадзіў па лекарах. Нічога не дапамагала. І тут да мяне трапіў на рэстаўрацыю цудадзейны абраз Дзісенскай Адзігітрыі. І менавіта ён дапамог, я ачуняў. Калі над ім працаваў, зайшла знаёмая і не змагла знаходзіцца ў памяшканні – такім жарам на яе ад абраза павеяла!

**– Вы не проста рэстаўратар, а рэстаўратар-мецэнат, гэта значыць часам робіце сваю працу бясплатна. Вы працуеце ахвярна па закліку душы?**

– Працаваць ахвярна магчыма толькі па закліку душы, тут не можа быць разліку «ты мне – я табе». Хоць гэта няпроста ў наш час, калі дзейнічае прынцып «нічога асабістага, толькі бізнес». Мне прыемна ўсведамляць, што старыя абразы працягваюць жыць, дзякуючы маёй сціплай ахвяры. Скажам, у мінскім Пятра-Паўлаўскім саборы – абраз свяціцеля Інакенція Іркуцкага. У валожынскі касцёл Святога Язэпа я ахвяраваў бакавы алтар Божай Міласэрнасці – у памяць аб маіх дзядулі Язэпе і бабулі Юзэфе. Вось жа атрымалася: сам я каталік, а працую ўвесь час з праваслаўнымі іконамі.

**– А колькі можа каштаваць рэстаўрацыя старой іконы?**

– Майстэрства заўсёды каштавала дорага. Да мяне часам звяртаюцца мясцовыя антыквары з прапановай: зрабі «танна і хутка». І часам святары ці апякунскія рады пры храмах знаходзяць для гэтай справы рамеснікаў. Я лічу такі падыход непрымальным. А кошт вызначаецца нашым беларускім рынкам. Скажам, у Італіі такая рэстаўрацыя каштуе 10 тысяч еўра, у нас – каля дзвюх тысяч. Дарэчы, у 1990-я гады я меў шмат прапаноў працаваць у той жа Італіі, Францыі, Польшчы, Расіі. Але застаўся на радзіме.



**– Ведаю, што вы аднавілі старажытны абраз Полацкай Маці Божай XVI стагоддзя, фактычна – вярнулі яго ў Беларусь. Як гэта адбылося?**

– Існуюць два абразы Полацкай Маці Божай – арыгінал XII стагоддзя і спісак XVI-га. Спісак быў зроблены адмыслова для цара Івана Жахлівага, каб ён не вывез у Маскву старажытны арыгінал. А ён вывозіў усё, што траплялася пад руку. Трапіў мне на вочы якраз спісак – праз маскоўскіх антыкварных дылераў. Калі мне яго прапанавалі (нятанна!), ён быў моцна пашкоджаны, і я не адразу зразумеў, што гэта за абраз. Прыехаў дадому, літаратуру адпаведную пачытаў. А калі ўсё ж вырашыў набыць, то маскоўскія хлопцы адказалі, што кошт падвоіўся... Усё ж абраз я набыў, прывёз у Беларусь і доўгі час не ведаў, што з ім рабіць. Мітрапаліт Філарэт пажадаў, каб я ім заняўся. Я адрэстаўраваў і ахвяраваў БПЦ. Дарэчы, потым я даведаўся, што расійскія мецэнаты былі гатовы купіць той абраз за 10 мільёнаў долараў...

**– Ого! Не шкадуеце, што ахвяравалі БПЦ? Можна было б ашчасліваць расійскіх мецэнатаў…**

– Не шкадую. Не ўсё вымяраецца грашыма, і мне сёння радасна на душы, што абраз знаходзіцца ў Полацку, адкуль паходзіць арыгінал. Менавіта з гэтага абраза і пачалася мая рэстаўрацыйная дзейнасць, ён стаў маім стартам. За тое, што ахвяраваў абраз царкве, я атрымаў ордэн Святой Еўфрасінні Полацкай.

**– Пры рэстаўрацыі, відаць, даводзіцца мець справу з таксічнымі рэчывамі-хімікатамі. Вы неяк засцерагаецеся?**

– З «хіміяй» я даўно не працую. Спачатку, яшчэ за савецкім часам, я ўжываў для раскрыцця старых фарбаў і ацэтон, і дыметылфармамід, і метанол. Гэта даволі агрэсіўная хімія. Скажам, дыметылфармамід разбурае печань і пранікае ў арганізм нават праз скуру. Такой хімічнай «парфумай» я дыхаў з 1990-га па 2000 год, потым шмат разоў ляжаў у пульманалогіі. Таму цяпер умацаванне і расчыстку абразоў я аддаю спецыялістам, у якіх ёсць адпаведнае абсталяванне.

**– А самі ці маеце зручную майстэрню?**

– Я працую ў знакамітым доме на вуліцы Максіма Танка, дзе мелі майстэрні ці жылі Міхась Раманюк, Георгій Скрыпнічэнка, Васіль Быкаў, Мікалай Яроменка… Гэты дом валодае творчай аўрай, якая дапамагае мне ў працы.

**– Вы гэтым рамяством займаецеся ўжо даўно. Дзе, у якіх храмах вісяць адноўленыя вамі абразы?**

– Дзісенская Адзігітрыя XVII стагоддзя – ва Уваскрасенскім саборы Дзісны, там жа Хрыстос-Збаўца канца XVII стагоддзя. Полацкая Адзігітрыя XVI стагоддзя, пра якую мы гаварылі, – у полацкім Свята-Еўфрасіннеўскім манастыры. Ружанская Адзігітрыя – у Пятра-Паўлаўскім саборы ў Ружанах... Абразоў не так і шмат, але яны знакавыя для гісторыі Беларусі.

**– Чым адрозніваецца ад іншых беларуская школа іконапісання? Вы можаце на вока распазнаць, дзе руская, дзе ўкраінская іконы?**

– Я магу вызначыць не толькі школу, але і час напісання, і прыкладны кошт абраза. Галоўны памочнік тут – вопыт. Набываючы (часам і за свае грошы) абраз XVII стагоддзя, мусіш ведаць, што гэта не падробка. Памылішся – грошай ніхто не верне. І беларуская, і ўкраінская школы, вядома ж, адрозніваюцца ад рускай. Усё ж наша сакральнае мастацтва зазнала моцны ўплыў Заходняй Еўропы. Беларускі абраз – ён адметны. Тут можна ўзгадаць і палескі іканапіс, які ўвабраў у сябе прыёмы народнай творчасці Гомельшчыны, Чарнігаўшчыны і Браншчыны. І гэты самабытны іканапіс сёння немагчыма падзяліць на тры дзяржавы.

**– Вы яшчэ і знаны калекцыянер. У Музеі гісторыі Мінска нядаўна прайшла выстава рэчаў з вашай калекцыі «Дамскія штучкі». Сукенкі, вееры, парфума… Я магу зразумець, чаму гэта цікава сучасным модніцам. Але чаму гэта цікава вам?**

– Калісьці мая выкладчыца прафесар Ляніна Міронава гаварыла: «Ігар, у цябе на адным аркушы можа гучаць Бах, а на другім – певень кукарэкнуць». У гэтых словах – увесь я. Мне цікава разгадваць таямніцы сакральнага мастацтва і збіраць розныя «жаночыя штучкі», якіх, дарэчы, няма ў нашых музеях. Гады чатыры таму ў Нясвіжскім замку прайшла выстава «Вялікі баль у Радзівілаў». Там я паспрабаваў паказаць, як адбывалася падрыхтоўка да шляхецкага балю, якога этыкету прытрымлівалася наша шляхта ў флірце. На выставе прэзентавалася ўсё: капялюшыкі, муфты з гусіных пёркаў і гарнастая, вытанчаны абутак з Прагі і шаўковыя панчохі з Парыжа...

**– Пра што марыць калекцыянер Ігар Сурмачэўскі? Чаго пакуль няма, але абавязкова павінна быць у вашых зборах?**

– Для мяне кожны адшуканы артэфакт – праўджаная мара, яшчэ адно прыадчыненае акенца ў беларускую мінуўшчыну. Напрыклад, цяпер паралельна з рэстаўрацыяй абразоў я займаюся падрыхтоўкай выставы пад назвай «Народжаныя ў карунках, ахрышчаныя на шаблях», якая пройдзе ў Мірскім замку. Тэма – шляхецкія хрысціны ў XVIII–XIX стагоддзях. Дух сарматызму, уборы маленькіх шляхцюкоў на землях ВКЛ. Усе артэфакты будуць аўтэнтычныя, ніводнай рэканструкцыі!

**– Як вы ставіцеся да гэтак званых чорных капальнікаў? Ці вялікую шкоду яны прыносяць у маштабах краіны?**

– Капальнікі бываюць розныя. У маёй калекцыі многа артэфактаў, паднятых якраз з палёў. Калі іх не вымаць з зямлі, то праз пэўны час салетра ды іншыя хімікаты знішчаць іх. Я згодны, што нельга парушаць курганы, старажытныя гарадзішчы, якія знаходзяцца пад аховай дзяржавы. Але бывае, што трактар разворвае курган, як тое адбылося з курганамі X–XI стагоддзяў на Навагрудчыне. Потым на полі знаходзілі пярсцёнкі, мячы, рэшткі ад ножнаў. Знаходкі, якія трапілі ў маю калекцыю, маюць характэрныя пашкоджанні – ад плуга ці гусенічнага трака. Яны ўратаваліся цудам, а маглі проста прапасці, як незваротна прапала шмат што ў нашай гісторыі.

**– Вас паслухаеш, дык «чорныя капальнікі» проста ратуюць сітуацыю. Але ў іх адна мэта – нажыцца на тым, што кепска ляжыць. Ці маеце вы з імі справу як калекцыянер?**

– Ад тых капальнікаў, як ад каранавіруса, няма засцярогі. Прага знайсці свой востраў скарбаў – яна нязводная. Як з гэтым змагацца? Скажам, у Вялікабрытаніі ёсць адпаведная служба, якая трымае ў полі зроку розных скарбашукальнікаў. І калі камусьці пашанцуе знайсці знакавую для гісторыі краіны рэч, дзяржава выкупляе яе па рынкавым кошце. На жаль, многія артэфакты з Беларусі сплываюць на заходнія аўкцыёны, дзе за іх даюць немалыя грошы. З «чорнымі капальнікамі» я маю справу, але толькі праз сайты ці антыкварных дылераў. І калі маю магчымасць – набываю тую ці іншую рэч, каб яна не пакінула межы краіны.

**Міхась СКОБЛА.**

ШАШКІ

## Архівы майстра

Знаёмім з новымі знаходкамі з архіваў майстра шашачнай кампазіцыі ***Мікалая Грушэўскага***.



№1 *(гл. дыяграму)* **Белыя**: c1, e1, b2, f2, g3, f4, h6 (7).

**Чорныя**: h2, a3, b4, d4, h4, g7, f8 (7).

Белыя пачынаюць і робяць нічыю:

g5(f6), ed2, **I**fe3, dc3, e7(c1), d8 =. **I**dc3, e7(d6) х.

У наступным эцюдзе майстра знайдзіце выйгрыш самастойна.

№2 **Белыя**: простая d6, дамкі h4, c7 (3).

**Чорныя**: простыя c3, a5, b6, дамка d8 (4).

## Па слядах мэтра

Натхнёныя творамі Мікалая Грушэўскага, свае пазіцыі прапануюць ***Анатоль Баланюк*** (№3 і №4) і вядучы рубрыкі (№5, №6 і №7). Таксама знайдзіце выйгрыш самастойна.

№3 **Белыя**: d2, f4, d6, e7 (4).

**Чорныя**: b2, f2, e3, b4, b8 (5).

№4 **Белыя**: g1, d2, h2, f4, h4, a7 (6).

**Чорныя**: b2, e3, b4, a5, f6, c7, g7 (7).

№5 **Белыя**: c1, c3, c7 (3).

**Чорныя**: a3, c5, e5, g5 (4).

№6 **Белыя**: простыя f4, a7, дамкі h2, g5, h6 (5).

**Чорныя**: простыя d2, a3, c3, d4, c5, b6, g7, дамка f8 (8).

№7 **Белыя**: b2, h2, f4, a5, g5, a7, c7 (7).

**Чорныя**: d2, f2, c5, b6, f6, e7, d8 (7).

## Міжнародныя пазіцыі пастаянных аўтараў



Добра вядомыя нашым чытачам майстры шашачнай кампазіцыі прапануюць свае творы.

***Аляксандр Мікалаеў***

№8 **Белыя**: простыя 14, 15, 16, 32, 34, 42, 50, дамкі 3, 47 (9).

**Чорныя**: простыя 6, 8, 9, 13, 20, 22, 23, 25, 30, 31, 39, 43, 44, дамкі 12, 24, 45 (16).

38, 17(43**A**), 37, 35, 30, 48(39), 11, 44, 6 х. **A**(49), 48, 35, 35-30, 27, 27 х.

№9 **Белыя**: простыя 14, 23, 24, 29, 30, 33, 42, 44, 45, дамкі 1, 5, (11).

**Чорныя**: простыя 7, 12, 13, 15, 17, 31, 32, 38, дамкі 47, 48 (10)

20, 18, 43, 43, 34 х.

№10 **Белыя**: простыя 6, 12, 17, 18, 19, 22, 23, 24, 29, 32, 35, 45, дамка 37 (13).

**Чорныя**: простыя 1, 3, 7, 8, 9, 34, 39, 40, 43, 44, дамкі 36, 49 (12).

11, 2, 8, 24(23), 34, 16, 48(50), 7(12), 32-27, 17, 17 х.

№11 **Белыя**: простыя 15, 16, 19, 23, 26, 29, 30, 33, 34, 36, 39, 41, 45, дамкі 24, 31 (15).

**Чорныя**: простыя 1, 3, 5, 12, 17, 21, 22, 25, 27, 28, 32, 35, 38, 42, дамкі 48, 50 (16).

11, 8, 10, 10, 37, 35, 42, 32, 34, 2 х.

***Іван Наўроцкі*** просіць чытачоў самастойна знайсці выйгрыш за белых у наступных кампазіцыях.

№12 **Белыя**: 7, 11, 12, 13, 19, 29 (6).

**Чорныя**: 10, 14, 16, 20, 40, 41, 42 (7).

№13 **Белыя**: 11, 14, 17, 19, 28, 31, 49 (7).

**Чорныя**: 6, 8, 22, 29, 33, 38, 39 (7).

№14 **Белыя**: 14, 18, 19, 20, 24, 48, 49 (7).

**Чорныя**: 7, 25, 27, 29, 33, 34, 40, 41 (8).

№15 **Белыя**: 19, 28, 29, 32, 33, 34, 40, 46 (8).

**Чорныя**: 2, 12, 18, 20, 21, 31, 37, 41, 45 (9).

## Супаставім рашэнні

«Народная Воля» за 3 сакавіка 2020 года.

**№1** – b6, e3:c5, e3, e7(f6), g5, e3 х.

**№2** – d8, g5, g3(f4), g5(c5), e3 х.

**№3** – e7, b8, a3:c5, b4(c5), g5, f4 х.

**№4** – b6, d8(c5), g7, ef6, d6 х.

**№5** – c7, ef2, g3, h4, a5(e5), ed2(f4), b6(b4), f2 х.

**№6** – c3, e7, b8(d4), e5(e3), h8(d2), d4(c1), g3(a3), b2, g5, f6 х.

**№7** – d6(e5), h2, d6(f6), c7(e3), d8(e5), c7(d4), b6(c3), f2(d2), e1(c1), g3(a3), b2, f4, f4 х.

**№8** – f8(b2), c3, g3, h6(h4), g5, g3 х.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас:
***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»***
або на электронны адрас рэдакцыі:
***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 06.04.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 016 экз. Заказ № 1216.